PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 5 (1968) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 30 СТУДЗЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## У ЗАЛУКАХ УСЁ ЗМЯНЯЕЦЦА

З Беластока ў Залукі сорак хвілін язды. Аўтобус давозіць у самую вёску. Сёння 12 студзеня. У вокнах гараць каляровыя лямпачкі на ёлках. Зараз у вёсцы многа балота. Дзе-нідзе відаць сляды тратуара. Калі пытаюся, што чуваць у вёсцы, сяляне пасылаюць мяне да спадарства Паплаўскіх:

— Яны ўмеюць усё расказаць, — заахвочваюць вяскоўцы.

### Сям'я Паплаўскіх

вялікая. Прыемна мне было пазнаёміцца і пагутарыць з Валянцінай і Марыяй Паплаўскімі, гаспадаром, Верай Мінчук, маладой суседкай і прысутнымі дзеткамі. У Паплаўскіх гаспадарка адбудаваная. Дзеці паканчалі вышэйшыя школы, пажаніліся, маюць дзяцей і працуюць па сваіх прафесіях.

— Дачка Гражына, — ганарыста кажа цётка Валянціна, — мае за мужа араба. Пазнаёмілася з ім у Балгарыі, дзе разам яны штудзіравалі. Іх дзетак, Сару і Дарка, цяпер даглядае бабуля. Сын таксама жыве з бацькамі. Пераняў гаспадарку, але яшчэ працуе ў ПГРы ў Валілах. У сям'і таксама старэнькая бабуля (найстарэйшая ў ваколіцы). Марыі Паплаўскай 97 гадоў. Бабка мае ўжо клопаты са слыхам. І цяпер яна думкамі недзе далёка.

— Бабо, раскажэце, як то калісь людзі жылі, — просяць нявестка з суседкай.

— А, я не ўмею ўжо гаварыць, — жаліцца бабуля і замыкаецца ў сваёй задуме.

Цікава гутарылі мы пра вёску,

### жыццёвыя справы,

надвор'е і бацюшкоў. Цяпер важнай справай для сялян з'яўляюцца пенсіі. — Калі ўжо атрымоўваеш пенсію, не трэба тады плаціць пенсіённых узносаў, а яны вельмі вялікія як на нашы кішэні, — кажуць цёткі-пенсіянеркі.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці нашых пенсіянераў, цёткі шчодра мяне гасцявалі.

— Старым найлепш дажываць на вёсках. Заўсёды можна тое-сёе памагчы дзецям у гаспадарцы, — кажуць.

Бабкі з энтузіязмам гаварылі пра беларускі канцэрт пажаданняў, які слухаюць па радыё з Беластока.

— Калектыву ў нас няма, але ёсць група жанчын, якія спяваюць хаўтурныя і царкоўныя песні. У вёсцы народныя абрады падтрымоўваюць і маладыя. У гэтым годзе было многа каляднікаў. Хадзілі нават з гвяздай, — расказваюць жанчыны.

Ад спадарства Паплаўскіх іду

### ў магазін.

Сёння тут пустэча, хаця тавараў шмат. Прадаўшчыца, Ніна Лісоўская, кажа, што інтарэсы ідуць добра. Было б і яшчэ лепш, каб не канкурэнцыя. Робяць яе аўтакрамы, якія два разы ў тыдзень наведваюць Залукі. Прыватызаваны магазін належыць беластоцкай суполцы „KORA”(Ніна Лісоўская сумняваецца, ці можна ёй гэта гаварыць). Заробкі цяпер лепшыя. Нашую размову перарываюць кліенты. Відаць, яны — штодзённыя наведвальнікі са сталым густам, бо на лозунг: „два!” мігам паяўляюцца ў іхніх руках бутэлькі з півам „Dojlidy Złote”. Калі падчас экстатычнага піцця паказалася дно бутэлькі, бесцырымонна звярнуліся яны да мяне з такой вось прапановай: „Kupi pani nam jeszcze po piwku”. Калі гавару, што я з „Нівы”, абставіны мяняюцца. Цяпер ужо яны мне прапануюць піўцо, якое прадаўшчыца мела даць на „крэзу”.



*Сару і Дарка даглядае цяпер бабуля.*

### „Каб я быў шчаслівы, не чытаў бы „Нівы”

— адгукнуўся адзін з іх на слова „Ніва” (цікава, адкуль гэтая прыказка, бо ніхто з вяскоўцаў не ўмеў мне гэта растлумачыць). Адзін з хлопцаў, калі сталі гаварыць пра „Ніву”, у пэўны момант усыхнуў нянавісцю:

— Там у тэй „Ніве” было пра мяне. Такі адзін тып з вёскі так мяне абшмараваў, што...

Мне давялося толькі нявінна ўсміхацца. Размова пра няшчасце і зласлівых суседзяў заглушыла агрэсію майго размоўцы.

— Сушыць, як халера! — прызнаюцца з гонарам хлопцы. Паслясвяточныя пакуты не дасягнулі солтыса.

### Сцяпан Паплаўскі

якраз збіраўся везці малоць збожжа на восыпку, але на хвіліну зайшоў у хату, каб адказаць на мае пытанні.

— У вёсцы „Ніву” ўжо не чытаюць. Ёсць такі адзін чалавек, які падпісваўся на яе, але цяпер ён у бальніцы. А мы, маладыя, не чытаем, бо не вучыліся „беларуского”.

На пытанне, чаму яго сын не вучыцца гэтай мове, солтыс шчыра прызнаецца:

— Сам не вучыўся, то і дзеці не вучацца.

### У вёсцы 70 дамоў.

Жыве тут 350 чалавек. Найбольш папулярныя прозвішчы гэта: Паплаўскі, Майсак, Райкоўскі. Падаткі плацяць 30 землярobaў. У Залуках толькі два маладыя гаспадары. Ёсць многа „беспрацоўных” і, як у кожнай вёсцы, старых кавалераў. Тыя, што не пераехалі ў Беласток, даязджаюць яшчэ на працу ў гарады.

### Вёска змяняецца

У Залукі прыйшла прыватызацыя. Мясцовы ПГР купіў „прыватнік” з Рафалаўкі. Працуюць у яго мясцовыя сяляне. Ёсць яшчэ адзін „прыватнік” з Беластока, які мае дрэваапрацоўчы цэх, дзе „стругаюць палі”. У вёсцы правялі тэлефоны. У трох дамах ёсць вада з гідрафора і цэнтральнае ацяпленне. У Залуках свая школа. Пошта і праваслаўны прыход знаходзяцца ў Каралёвым Мосце. У вёсцы жывуць таксама каталікі, якіх тут 12 сем'яў. Усе на штодзень карыстаюцца беларускім цэнтральна-заходнім дыялектам. Маладыя бацькі аднак сваіх дзетак вучаць гаварыць толькі па-польску. Калі я размаўляла з адной маладзіцай (якая зазначыла, што яна каталічка), яна адказала:

— Takie czasy, co zrobić.

Але яе дзеці вучацца ў школе беларускай мове. Дарэчы, успрымаецца яна некаторымі як замежная мова:

— Няхай вучацца хоць аднаго „języka obcego” — сказала сялянка.

Тое, што вучаць цяпер дзетак па-польску на беларускіх вёсках, усе сяляне лічаць агульнавясковай нормай.

У сумным настрої

### пакідаю вёску.

Імглістае і дажджлівае надвор'е не настройвае да весялосці. Да таго ж падае цісk, баліць галава і няма аўтобуса. На дадатак падвёз мяне ў Беласток шафёр, які сорак хвілін расказваў, як трэба вастрыць маторныя пілы ў мясцовым тартаку.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

P.S. Пачула я слаўную прыказку і ў такім варыянце: „Каб я быў шчаслівы, не пісаў бы да „Нівы”. Можа адгукнецца аўтар гэтага жахлівага тэксту.

**Г. К.**

## МЫ НЕ СТРАЦІЛІ ГЭТЫХ ЧАТЫРОХ ГАДОЎ

Перамога ў апошніх выбарах у Польшчы левых партыяў, раздрабненне сілаў і сваркі ў салідарніцкім лагеры — гэта вынік распачатага ў 1989 годзе працэсу дэмакратызацыі дзяржавы. Выбары 1989 года, пазіцыя Захаду ў справе пашырэння НАТО на іншыя дзяржавы ацверазілі большасць польскіх палітыкаў — вярнула іх на зямлю — а гэта дае шанц на паўторны аналіз сваёй вартасці і свайго месца. Аказваецца, што не заўсёды амбіцыі палітыкаў у імя ўзнёслых мэтаў атрымоўваюць патрэбную падтрымку ў народзе — сярод выбаршчыкаў.

Думаю, што варта зрабіць падлік і на нашым панадворку. У 1993 годзе высвятлілася вельмі многа спраў. Чаму? У 1989 год беларускае асяроддзе ўвайшло пасвараным, а мінулы год кончыўся ў меру спакойна. Усе помнім распаленыя галовы і такія ж самыя дзеянні ў 1989 годзе. Як здавалася, нічога нас не вырату ад чарговага „нявыкарыстанага гістарычнага шанцу”. Варта прыпомніць тыя часы, калі на грунце разлікаў з мінулым ва ўсёй дзяржаве, таксама і мы забраліся за парадкаванне свайго панадворка. Беларуская сцэна пачала запаўняцца рознымі новымі арганізацыямі ці ініцыятывамі. Існавала тады легальна толькі БГКТ, а Праваслаўнае брацтва дзейнічала напаўлегальна. Большасць новых беларускіх арганізацыяў, якія выводзіліся са студэнцкіх асяроддзяў, вельмі востра крытыкавала нерэфармавальнасць БГКТ.

У гэтым часе (карыстаюся вялікім спрашчэннем), беларускае асяроддзе выглядала як трохкутнік, якога сімваламі былі дзеячы, магнітнае поле якіх узаемна сябе адпіхала. Навокал Яўгена Чыквіна канцэнтравалася царкоўнае асяроддзе; Аляксандр Баршчэўскі аб'ядноўваў людзей звязаных з БГКТ; Сакрат Яновіч быў аўтарытэтам для новаўзнікаючых арганізацыяў, якія, зрэшты, пасля стварэння Беларускага дэмакратычнага аб'яднання — а потым Рады беларускіх арганізацыяў — узялі на сябе арганізаванне палітычнага жыцця на Беласточчыне. Тут варта ўспомніць выбары ў парламент і ў самаўрады.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства не магло пагадзіцца з фактам, што яшчэ нехта прабуе весці дзейнасць у беларускім асяроддзі. Брацтва таксама найбольш ахвотна аб'яднала б усіх пад сваімі крыламі. БАС ці БДА ўспрымалі гэта ўсё як спробу ўтрымаць папяроднi статус-кво. На гэты час прыпадаюць найбольш гарачыя сваркі паміж арганізацыямі, а лепш сказаць, паміж лідэрамі, якія вялі — асабліва на старонках „Нівы” — палымяныя дыскусіі.

☞ *Працяг на стар. 4*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*20-letnia kobieta, inwalidka II grupy, w 7 miesiącu ciąży została wyeksmitowana z mieszkania. Zdaniem prezesa Zarządu Spółdzielni Mieszkaniowej „Rodzina Kolejowa" eksmisja nie jest przyjemna, ale aspekty moralne nie zawsze idą w parze z prawem. Meble i sprzęty wywiezione z mieszkania podczas nieobecności lokatorki znajdują się w depozycie Zarządu Mienia Komunalnego. Wyeksmitowana zostanie obciążona kosztami za depozyt.*

*(Gazeta Współczesna, nr 7)*

Людзі, якія яшчэ нядаўна гвалтам і насіллем будавалі сацыялізм, цяпер такімі ж метадамі наводзяць капіталістычны парадак. Сёння называюць сябе „дэмакратамі" і „хрысціянамі".

* * *

*Przywódca Rosyjskiej Partii Liberalno-Demokratycznej Władimir Żyrinowski oświadczył, że prezydent Francji Mitterand jest debilem.*

*(Kurier Poranny, nr 8)*

Узнікае новы дыпламатычны слоўнік.

* * *

*Z Wiesławem Walendziakiem było tak... Mówi o sobie, że ma chłopską naturę, bo pochodzi z białoruskiego chłopstwa. W dobrej kompanii nie stroni od trunków i gromkiego śpiewu. Jego repertuar obejmuje głównie pieśni legionowo-powstańcze, ale numerem popisowym są białoruskie dumki.*

*(Super Tele Magazyn, nr 52/1993)*

Яшчэ адзін „наш хлопец". Гэта на практыку абазначае, што праўдападобна ў тэлебачанні нічога больш пра беларусаў не будзе.

* * *

***У канцы снежня 1920 г. палякі нечакана акружылі і абяззброілі слуцкую брыгаду, а ў лютым 1921 года ўсіх афіцэраў і стральцоў інтэрнавалі ў Беластоцкім канцэнтрацыйным лагеры.***

***(Беларус, н-р 408, Нью-Йорк)***

Слуцкая брыгада змагалася з бальшавікамі. Яе лёс пацвярджае, што ў 1920 годзе не толькі закончыўся каланіяльны канфлікт за Беларусь і Украіну, але і пачалося сяброўства і „braterstwo broni" паміж ваюючымі дагэтуль краінамі.

* * *

*Najstarszy syn państwa Lecha i Danuty Wałęsów z dniem 3 stycznia rozpoczął pracę zawodową w gdańskiej delegaturze Urzędu Ochrony Państwa.*

*(Super Ekspress, nr 3)*

* * *

***Тое, што з'яўляецца з-пад пяра Міры Лукшы, названа эксперыментам, пошукам як у форме верша, так і ў вобразна-выяўленчых сродках.***

***(Літаратура і мастацтва, н-р 51/1993)***

І хто бы падумаў, што з нашай Міры такі эксперыментатар!

* * *

*Kac to okrutna kara za przedawkowanie alkoholu. Sposobów na walkę z kacem jest kilka. Najczęstsze metody to stosowanie tzw. klina, picie kawy z cytryną, kwaśnego mleka, kefiru, soku pomidorowego, kładzenie kompresów na głowę. Klin to usuwanie kaca przez wypicie niedużej ilości mocnego alkoholu. „Wstrzemięźliwi" proponują „lufę", ewentualnie „setę", uporczywi degustatorzy często jednak na jednej nie kończą. W ten sposób problem przesuwa się w czasie na dni następne, które tak jak poprzednie nieuchronnie nastąpią.*

*(Życie Warszawy, nr 5)*

Гэты апошні метад нам здаецца найбольш цікавым.

* * *

*Wszyscy w tym kraju wiedzą, że polską racją stanu jest przyjaźń i graniczne gwarancje wielkiego mocarstwa, jakim jest Rosja. Otaczają Polskę kraje z pretensjami granicznymi. Żyrinowski będzie prezydentem Rosji i za wszelką cenę trzeba sprawić, aby ten najwybitniejszy polityk rosyjski był Polsce przydatny,* — сказаў лідэр польскага Frontu Narodowego „Samoobrona" Януш Брычкоўскі.

*(Gazeta Współczesna, nr 7)*

Польска-расейскае сяброўства мае ўжо багатую традыцыю. Сёння, калі да супрацоўніцтва з абодвух бакоў імкнуцца крайнія патрыёты, не павінна быць праблемаў, каб працэс гэты закончыўся паспяхова.

* * *

*Jakąż radością może być seks w polskich warunkach, skoro teściowie śpią za ścianą, skoro ksiądz w konfesjonale wypytuje — jak często sypiacie ze sobą. Według badań zachodnich ekspertów Polacy są najgorszymi kochankami, gorszymi nawet od Albańczyków. Jesteśmy ośmieszani na każdym kroku,* — сказаў прафесар Збігнеў Леў-Старовіч

*(Kurier Poranny, nr 251)*

* * *

*Polska dla Rosji to ogórek na kanapce,* — сказаў прэзідэнт Лех Валэнса.

*(Życie Warszawy, nr 1)*

* * *

*O kościele katolickim pisze się dużo i na ogół pozytywnie. W ciągu ostatnich miesięcy 1993 r. gazety białostockie — „Gazeta Współczesna", „Kurier Poranny", „Kurier Podlaski" i „Gazeta Tygodniowa" — zamieściły ponad 200 informacji. W tym samym czasie o Cerkwi Prawosławnej lokalne gazety pisały 4 razy.*

*(Przegląd Prawosławny, nr 1)*

* * *

*Nie organizujcie żadnych spotkań w czasie „Dynastii", toż w naszym Zabłudowie na ten czas wszystko się wyludnia, złodzieje tylko w ten czas chodzą. A ludzie w chatach płaczą nad Carringtonami.*

*(Z Ziemi Zabłudowskiej, nr 11-12)*

У сувязі з заканчэннем тэлесерыяла „Дынастыя" жыхароў Заблудава і іншых мястэчак просім прыняць словы нашага глыбокага спачування.

## З мінулага тыдня

**Утрыманне расейскай вайсковай прысутнасці ў краінах СНД** і ахова правоў і інтарэсаў расейскага насельніцтва ў дзяржавах „блізкага замежжа" — гэта адна з галоўных стратэгічных задач замежнай палітыкі Расеі, — сказаў міністр замежных спраў Расеі **Андрэй Козыраў**. На яго думку вывад войск з гэтага рэгіёна з'яўляецца такім жа экстрэмізмам, як і ідэя накіравання расейскіх танкаў ва ўсе рэспублікі, а стварэнне мілітарнага вакууму было б небяспечным, бо мог бы ён запоўніцца непрыязнымі Расеі сіламі.

**Лідэр БНФ Зянон Пазьняк** у артыкуле аб расейскім імперыялізме, надрукаваным у „Народнай газеце", сцвердзіў, што праваднік расейскіх нацыяналістаў **Уладзімір Жырыноўскі** і міністр замежных спраў Расеі **Андрэй Козыраў** гавораць дакладна адно і тое ж. Заклік Жырыноўскага „вернем Фінляндыю і Польшчу" Козыраў упрыгожвае толькі вучонымі фразамі аб геастратэгічных мэтах.

**Сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцяў** 19 студзеня г.г. абмеркавала праект бюджэту Міністэрства культуры і мастацтва на 1994 г. у частцы, якая датычыць фінансавай дапамогі для культурных дзеянняў меншасцяў. На пасяджэнні была таксама створана падкамісія па справах закону аб нацыянальных і этнічных меншасцях.

**Учора, сёння і заўтра польска-літоўскіх адносін** — гэта тэма нарады, якую ў Варшаве арганізаваў Агульнапольскі клуб любіцеляў Літвы. Некалькі дзесяткаў інтэлектуалаў, парламентарыяў і гісторыкаў з Літвы і Польшчы абмяркоўвалі сукупнасць польска-літоўскіх адносін у супастаўленні з актуальнай палітычнай сітуацыяй на еўрапейскім кантыненце.

**Госцем агульнага сходу суддзяў** Беластоцкай акругі быў міністр юстыцыі **Уладзімеж Цімашэвіч**. Міністр прадставіў сабраным праект бюджэту ведамства на 1994 г., які будзе большы, чым планавалася. Дазволіць гэта пачаць камп'ютэрызацыю судоў, ліквідаваць пратэрмінаваныя выплаты суддзям і пракурорам і павысіць зарплаты ў раённых юрыдычных установах.

**У Нарве** перанесена са старога на новы могільнік драўляную царкву XVIII стагоддзя. Пры нагодзе будзе часткова зменена канструкцыя сцен і даху. Рамонт храма праводзіцца са згоды і пры фінансавай падтрымцы Ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беластоку.

**Вакальны калектыў „Каліна"** з Дашоў святкаваў юбілей 15-годдзя сваёй працы. Калектыў, які заснаваўся па ініцыятыве **Валянціны Міцэвіч і Зофіі Кердалевіч**, выконвае мясцовыя народныя беларускія песні. Юбілейную вечарыну сваёй прысутнасцю ўдастоіў **Ігар Хадасевіч** — віцэ-консул Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку.

**Два гайнаўскія геадэзісты: Ян Кіцэль і Міхал Анішчук** — працаўнікі Ваяводскага бюро геадэзіі і сельскагаспадарчых тэрыторый у Беластоку, атрымалі ўзнагароды на XIX агульнапольскім конкурсе якасці камасацыйных прац. Геадэзісты былі ўзнагароджаны за праект камасацыі грунтаў вёскі Дабрывада ў Кляшчэлеўскай гміне.

**Па запрашэнню Беластоцкага электроннага прадпрыемства „Бязэт** Беласток наведаў **а. Тадэуш Рыдзык** — дырэктар **Радыё „Марыя"**. Сустрэўся ён з супрацоўнікамі беластоцкага аддзялення Радыё „Марыя", прэзідэнтам горада, калектывам і дырэкцыяй прадпрыемства „Бязэт". Радыё „Марыя" працуе са снежня 1981 года і ад нядаўна рэтранслюецца ў Беластоку. Яго праграма засяроджваецца на малітве, катэхізацыі і кантакце са слухачамі. Трэба таксама адзначыць, што прадпрыемства „Бязэт" займаецца прывозам з Беларусі і прыстасаваннем да прыёму Радыё „Марыя" малых партатыўных радыёпрыёмнікаў. Называюцца яны „Марыя".

**Лік беспрацоўных** у Беластоцкім ваяводстве на працягу мінулага года пастаянна павышаўся і ў снежні дасягнуў **45 тысяч** чалавек, што складае 14 працэнтаў ад агульнага ліку занятасці насельніцтва ў ваяводстве. Амаль палова беспрацоўных страціла ўжо права на грашовую дапамогу.

**1.950.000 зл.** — гэта мінімальная зарплата ў I квартале 1994 г., якую ўстанавіў міністр працы і сацыяльнай палітыкі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Размова з паслом Адамам Чэславам Дабраньскім.
- Ян Мордань не пагаджаецца з выказваннямі Васіля Антанюка.
- Якім быў і якім павінен быць Беларускі музей у Гайнаўцы.
- Пра Беларусь на ўроках геаграфіі.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Беларуска-амерыканская заява

15 студзеня г.г. з афіцыйным візітам пабываў у Менску прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. Пасля заканчэння беларуска-амерыканскіх перамоваў была прынята сумесная заява, у якой адзначаецца, што падпісаны двухбаковы дагавор аб інвестыцыях будзе заахвочваць прыватных інвестараў уключацца ў эканамічнае развіццё Беларусі. У заяве абвешчана таксама аб пагадненні, якое дазволіць экспартна-імпартнаму банку ЗША пашырыць свае аперацыі па фінансаванню двухбаковага гандлю. Бакі пагадзіліся стварыць у Менску амерыканскі бізнес-цэнтр, які будзе садзейнічаць амерыканскім кампаніям у вывучэнні магчымасцей гаспадарчай дзейнасці ў Беларусі і будзе дапамагаць беларускім фірмам як тэхнічна, так і ў падрыхтоўцы кадраў. Абодва бакі абмеркавалі перспектывы правядзення ў Беларусі дэмакратычных рэформ і выбараў у 1994 годзе.

## Старшыня Вярхоўнага Савета — задаволены

Спікер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч выказаў задавальненне вынікамі візіту прэзідэнта ЗША ў Беларусь. На яго думку прычыніцца гэта да папулярызацыі ў свеце Беларусі, якая заняла пэўную пазіцыю па раззбраенню і нейтралітэту. „У нас былі важкія перамовы з Білам Клінтанам, — сказаў С. Шушкевіч. — Пацвердзілі яны наша права на долю ад продажу тых цяжкіх рэчываў, якія ўтрымліваюць ракеты на нашай тэрыторыі. Адбылося значнае паляпшэнне інвестыцыйнага клімату. Замежныя інвестары, якія хочуць улажыць капітал у Беларусі, з большай павагай будуць ставіцца да краіны, дзе пабываў амерыканскі прэзідэнт, які да яе добра адносіцца".

## Сустрэча з кіраўнікамі апазіцыі

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан пажадаў у Менску сустрэцца з кіраўнікамі апазіцыйных арганізацый. У спатканні, якое праходзіла ў палацы пры Вайсковым завулку, прымалі ўдзел лідэр БНФ Зянон Пазьняк, яго намеснік — Уладзімір Заблоцкі, Сяргей Лашукоў ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Аляксандр Дабравольскі ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі. „На сустрэчы апазіцыя паставіла за мэту давесці да ведама прэзідэнта Клінтана тое, што на Беларусі пануе камуністычнае кіраванне, — сказаў народны дэпутат ВС, намеснік старшыні Сойму БНФ Уладзімір Заблоцкі, — і што ва ўрадзе і ў большасці Вярхоўнага Савета знаходзяцца прадстаўнікі былога партыйна-гаспадарчага кола. Гаварылі мы, што рэформы на Беларусі не праводзяцца і што ўрад і парламенцкая большасць вядуць антыдзяржаўную палітыку. Апрача таго ставілася пытанне аб тым, што грошы, якія будуць паступаць з боку ЗША не будуць разглядацца як інвестыцыйныя, а толькі будуць праядацца. Павінны адбыцца першыя дэмакратычныя выбары ў новай дзяржаве. Тое, што большасць парламентарыяў адмовіла народу выказацца на рэферэндуме аб датэрміновых выбарах, таксама было даведзена як інфармацыя да прэзідэнта. Адносна эканамічных захадаў вырашана пытанне, што нейкую долю ў грашах з продажу ўрану з раззброеных ракетаў Беларусь, так як і Украіна, магла б атрымаць".

## Адстаўка з прычыны аб'яднання?

Матывуючы сваю адстаўку, першы віцэ-прэм'ер Расеі Ягор Гайдар адной з прычын назваў аб'яднанне з грашовай сістэмай Беларусі. На яго думку выпраўленне фінансавай сітуацыі ў Беларусі адбудзецца коштам Расеі. Каментуючы гэты факт першы намеснік старшыні Савета Міністраў РБ Міхаіл Мясніковіч сказаў, што заява Ягора Гайдара з'яўляецца адлюстраваннем пазіцыі не ўрада Расеі, а толькі аднаго з яго членаў, хаця і вельмі ўплывовага. Мясніковіч напомніў, што ў час маскоўскіх консультацый 5 студзеня г.г., якія дэлегацыя ўрада РБ правяла з Я. Гайдарам, апошні не адмаўляў магчымасці аб'яднання грашовых сістэм дзвюх краін, а толькі выказаў меркаванне, што гэта даволі працаёмкі працэс у ходзе якога трэба будзе ўдакладніць некаторыя паказчыкі. Першы віцэ-прэм'ер Беларусі перасцярог грамадзян сваёй рэспублікі ад разлікаў на тое, што аб'яднанне грашовых сістэм аўтаматычна здыме іх праблемы і палепшыць іх дабрабыт. Мэта аб'яднання — зняць усе перашкоды на шляху тавармага абмену, якія ўзніклі пасля таго, як Расея, увёўшы сваю нацыянальную валюту, выйшла з рублёвай зоны.

## Арышт літоўскіх камуністаў

15 студзеня г.г. супрацоўнікі літоўскай службы бяспекі і праваахоўных органаў арыштавалі ў Менску Нікаласа Буракявічуса і Юозаса Ермалавічуса, якія ў апошні час нелегальна прабывалі ў беларускай сталіцы. Арышт былых дзеячоў былой кампартыі Літвы на платформе ЦК КПСС стаў магчымым, дзякуючы ўступіўшаму ў сілу 11 кастрычніка 1993 г. дагавору аб прававой узаемадапамозе паміж Літвой і Беларуссю. Буракявічус і Ермалавічус — непасрэдныя арганізатары г. зв. нацыянальнага камітэта выратавання Літвы і ўдзельнікі спробы дзяржаўнага перавароту ў рэспубліцы 13 студзеня 1991 г. — абвінавачваюцца ў змове з мэтай насільнага захопу ўлады. Тры гады таму назад пры штурме віленскай тэлевежы пад гусеніцамі савецкіх танкаў загінула чатырнаццаць чалавек.

(вл)



 

# „Святы Гаўрыіл...” Яна Смыка — найлепшы

Штогод напрыканцы снежня I і III праграмы Польскага радыё праводзяць агульнапольскі конкурс на найлепшы радыёрэпартаж. Нездарма лічыцца ён самім прэстыжным конкурсам у краіне, паколькі ягоны пераможца мае права дэманстраваць сваё дасягненне на агульнаеўрапейскім конкурсе „Prix Italia”. Беластоцкім журналістам давялося ўжо некалькі разоў прадстаўляць сваю творчасць на конкурсе „Prix Italia”, таму і гаворыцца, што Беласток — кузня рэпартажу (між іншым, у 1991 годзе ўзнагароду атрымаў рэпартаж пра падзеі на Грабарцы „Прытча пра Святую Гару”). Што вырашыць сёлета камісія ў Варшаве, невядома, але ёсць шанц. Менавіта напрыканцы 1993 года ў конкурсе перамог рэпартаж Яна Смыка з Беластока „Святога Гаўрыіла смерць для жыцця”. Ацанілі яго лепш, чым строгая — прысудзілі спецыяльную прэмію (вышэй першай узнагароды). Мабыць, многія з чытачоў чулі гэты рэпартаж у эфіры Беластоцкага радыё. Сапраўды, рэпартаж „Святога Гаўрыіла...” варты такой узнагароды за змест і форму. Падзеі, якія прадстаўляе — гэта перанясенне мошчаў святога Гаўрыіла з царквы ў Гародні ў Свята-Мікалаеўскі сабор у Беластоку. Форма змяшчаецца ў катэгорыі „каляж” (надта складаная форма, якой назва выводзіцца ад французскага слова *collage*).

Сам Ян Смык сваю прыгоду з Радыё пачаў, будучы яшчэ студэнтам Варшаўскага політэхнічнага інстытута ў 1972 годзе. З 1977 года пастаянна ўжо працаваў на варшаўскім Радыё ў сельскагаспадарчай рэдакцыі. Яму, як ураджэнцу падгайнаўскай вёскі Дабрывада, гаспадарчыя тэмы нават прыйшліся па душы. Аднак з часам пачаў ён займацца больш сур'ёзным жанрам — рэпартажам. З 1982 года працуе ён у Беластоку і ад нядаўна з'яўляецца кіраўніком Рэдакцыі рэпартажаў і радыёчасопісаў. У гэтым часе супрацоўнічаў з замежнымі польскамоўнымі вяшчаннямі: Радыё Вольна Еўропа, Бі-Бі-Сі і паланійнымі станцыямі ў ЗША.

— Што такое радыёрэпартаж? Гэтага ніхто не можа адназначна акрэсліць. Іншая справа — пісьмовая форма рэпартажаў, ці нават тэлевізійная. Радыёрэпартаж — справа больш складаная і цяжкая, — гаворыць Ян Смык. — Аўтар мае толькі, так бы мовіць, адну форму, адзін колер — значыць гук. І гукам павінен ён „малявацъ” усё — няма здымкаў, няма пунктуацыі, няма вобразу, няма месца на суб'ектыўнае, аўтарскае слова. Ёсць гук, які павінен адлюстроўваць увесь настрой, героя, падзеі, іх драматургію. Цяжкая справа, але адначасова прыемная гульня гукам (можна ў такі спосаб гуляць сказамі, словамі і нават літарамі, што атрымаецца так, як у выказваннях нашага прэзідэнта: „ja tego nie powiedziałem co powiedziałem”).

Для Яна Смыка аўтарытэтамі ў галіне рэпартажу як літаратурнага жанру з'яўляюцца творы Мельхіёра Ваньковіча і Жана Лафантэна. Кожны пачынаючы рэпарцёр павінен з імі пазнаёміцца. Смык прабаваў розных тэмаў рэпартажу, аднак найлепш сябе адчувае, і дарэчы гэта пацвярджаюць ягоныя ўзнагароды, у тэмах, звязаных з пагранічнем, з сутыкненнем розных культур, светапоглядаў, але, і, скажам, механікі ды электронікі. І што як што, але Беласточчына, як мае разнароднасць, шматнацыянальнасць, культурнае багацце — гэта проста дасканалы абшар для рэпарцёраў. Іншая справа, што толькі нядаўна пачалося сякое-такое зацікаўленне нашым рэгіёнам. Раней, от былі тутака нейкія беларусы, жылі праваслаўныя. Нехта хацеў нас класіфікаваць у нейкія катэгорыі. А ў сапраўднасці народы пагранічча карыстаюцца сваімі законамі, якія цяжка ці нельга вызначыць.


*Ян Смык за мантажным сталом.*

— Яшчэ пяць ці шэсць гадоў таму нельга было галасна гаварыць пра Супрасльскі манастыр. Тутака яшчэ і вонкавыя абставіны маюць значэнне, — гаворыць Ян Смык.

— Ці радыёрэпарцёр павінен заўсёды мець пры сабе мікрафон? — пытаю.

— О так, нават у час водпуску, вяселля ці ў пасцелі, — жартуе. — Аднойчы, было так. Разам з пажарнікамі, якія правяралі супрацьпажарную бяспеку ў збожжавых складах, паехаў я ў Нараўскую гміну. Ну, вядома, праверылі, а потым, пасля цяжкай працы, у ліпеньскі спякотны дзень спыніліся разам над рэчкай пажарнікі, мясцовыя чыноўнікі і я. І калі спатрэбілася паехаць у мястэчка ў краму, чуем, што людзі крычаць: „Пажар, пажар!” Нешта гарэла ў лесе. Што ж, пакінулі адпачынак. Пажарнікі гасілі, а я зрабіў рэпартаж, без папярэдняй падрыхтоўкі, на хаду. Для рэпарцёра магнітафон неабходны ў кожнай сітуацыі, бо рознае можа здарыцца на вуліцы, у школе ці ў кавярні...

Аднак такія рэпартажы не здараюцца часта. Часам даводзіцца патраціць шмат часу і працы. Радыёрэпартаж „Святога Гаўрыіла смерць для жыцця” Ян Смык рабіў амаль год у розных мясцовасцях Гарадзеншчыны і Беласточчыны. Дадатковай, але вельмі прыемнай узнагародай для аўтара з'яўляюцца два паасобнікі кампакт-дыска з запісам гэтага рэпартажу (адзін мае аўтар) і надпіс на ім на двух мовах — польскай і беларускай. Мы таксама віншуем спадара Яна Смыка і жадаем далейшых поспехаў!

**ЮРКА ЛЯШЧЫНСКІ**
**Фота аўтара**




**Дарагая „Ніва”!**

Сястра, якая жыве ў Беластоку, па маёй просьбе выпісвае мне ваш тыднёвік. Чытаючы рэгулярна „Ніву”, не забываю роднай мовы, хаця пісаць на ёй мне не лёгка.

У „Ніве” змяшчаецца шмат дакладных датаў нараджэння палітыкаў, пісьменнікаў, гісторыкаў, святых, часам з некалькіх стагоддзяў таму назад. Падумалася мне, што і мне дапаможаце высвятліць дату майго нараджэння. З розных прычынаў няма ніякіх дакументаў, якія маглі б рашуча дапамагчы мне акрэсліць дату майго нараджэння. У маім пашпарце напісана 1 лістапада 1942 г. Але памятаю, як мама калісьці гаварыла, што нарадзіўся я пры „саветах” у лістападзе 1940 г. Была гэта субота. Праверыў я ў календары і, сапраўды, 2 лістапада 1940 г. была субота. Але гэта ніякі доказ.

Мая метрыка нараджэння была ў парафіі Ялоўка, тады ў Гродзенскай епархіі. Падчас II сусветнай вайны драўляная царква ў Ялоўцы зусім згарэла. Не засталіся там ніякія дакументы.

Перад выездам у Амерыку я стараўся знайсці сваю метрыку, але ў канцылярыі сабора Св. Мікалая ў Беластоку не маглі мне дапамагчы.

Мажліва, што дакумент майго нараджэння знаходзіцца недзе ў Гродне, што на Беларусі. Праўдападобна на маёй метрыцы значацца такія даныя: Леанід або Лявон Салавей, в. Новая Луплянка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Думаю, што было напісана: радзіўся 1-га або 2-га лістапада. Мае бацькі Ян і Антаніна Салавей (дзявочае Кашалевіч) нарадзіліся ў 1910 г.

Вельмі прашу падказаць мне, дзе мне трэба звярнуцца, каб знайсці адпаведныя дакументы.

**ЛЯВОН САЛАВЕЙ, ЗША**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Наколькі нам вядома, усе дакументы, якія адлюстроўваюць духоўныя паслугі святара (хрысціны, пахаванні, шлюбы) знаходзяцца ў парафіяльных архівах. Ваша метрыка магла быць толькі ў Ялоўцы. Калі кнігі са спісамі нованароджаных у 1940 г. згарэлі, дык няма чаго шукаць у царкоўных архівах. Магчыма нейкі след застаўся у гміннай дакументацыі ў Свіслачы, але дзе тая дакументацыя цяпер і ці наогул яна захавалася, невядома. Можа хтосьці з нашых чытачоў адкажа на гэтае пытанне?

Лісты ў гэтай справе просім дасылаць у рэдакцыю.




## ДРАМА З ХЭПІ-ЭНДАМ

...І вецер так ціха шумеў над краінай,
І золак імглісты ўставаў.
А хлопец у садзе сваёй шэравокай
Вясельную песню спяваў:

— Ах, выйдзі за мяне мая дарагая,
Галубкай я буду цябе называць...
— Я веру, мой мілы, я веру — каханы,
Што хочаш і будзеш мяне ты кахаць.

І я бы хацела быць вечна тваёю,
Няхай нават ў хаце старой,
Аднак паглядзі, што чаўпе твая маці,
Дык як жа я буду тваёй?

Ты возьмеш за жонку такую дзяўчыну,
Якую палюбіць і маці, і ты,
А мне давядзецца блукаць адзінокай,
Мой лёс, гэта лёс сіраты.

— А я не хачу ні слухаць, ні бачыць
Нікога, калі ўжо не ты.
Я маму сваю па нагах пацалую,
Я веру ў яе дабрату:

Дазволь мне, матулю, жаніцца з каханай.
Мы шчасце дадому ўнясём,
Мы будзем цябе шанаваць, дарагая,
Ды цешыцца нашым жыццём.

— Па смерці маёй ты ажэнішся з ёю!
Я буду за вамі праклёны насіць... —
Сказала матуля і ўпала ссінеўшы,
Бо сэрца старое спынілася біць.

І сонца зазззяла над садам вішнёвым,
І золак халодным ужо болей не быў.
Хлапец ажаніўся з каханай дзяўчынай,
Ды ў шчасці, як голуб з галубкай,
пражыў.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

## ПРА ТЭЛЕБАЧАННЕ

Тэлевізар сёння ў модзе
Ў чалавечым родзе.
Слепяць вочы пры экране
У дурным абмане.
Многа там ілгуць.
Гледачы аж прyць
Паглядзець „Дынастыю”,
Верaць у байку-рацыю!
Слепяцца у „порна”
Ды сядзяць упорна,
Як кароль на троне,
Дбаўшы аб кароне.
Дзеці і дарослыя,
Ў тапачках і босыя,
На канапах, крэслах —
Няма пустых месцаў.
Пільна так глядзяць,
Што не адарваць
Ад куміра новага
Народу вясковага.
Хоць не ўсё дурноцце.
Весткі, аб пагодзе,
Для сялян праграмы,
Са свету тэлеграмы,
Мовы і прырода,
Пра Бога і згоду...

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




### ШЛЯХІ І ДАРОГІ

Дарогі — візітная картачка гміны. Зараз у Чыжоўскай гміне налічваецца 24 кіламетры важнейшых асфальтавых дарог: са Збуча ў Кленікі (10 км), з Новага Беразова ў Курашава і з Кленікаў у Гародчына (па 6 км) ды з Асоўкі ў Койлы (2 км). Па асфальце ездзяць і ходзяць у вёсках: Чыжы, Мора, Збуч, Кленікі, Курашава, Камень, Койлы, Асоўка і Шастакова. Тратуары паклалі ў вёсках Чыжы і Кленікі.

У мінулым годзе былі адноўлены дарогі: з Шастакова ў Старое Беразова ды з Асоўкі ў Новае Беразова.

Сялянам патрэбны даязныя дарогі з вёсак на палі і сенажаці. У мінулым годзе пры пабудове такога роду дарог працавалі ў грамадскім пачыне жыхары Мора, Кленікаў, Чыжоў і Збуча, а таксама Шастакова і Слівова.

### НЕ СПЫНЯЮЦЬ ДЗЕЙНАСЦІ

У Чыжоўскай гміне дзейнічае Гмінны асяродак культуры (ГОК), шэсць клубаў, а таксама Гмінная публічная бібліятэка і яе філіял у Кленіках. У клубах у Кленіках, Збучы, Курашаве і ў Камені правялі рамонт. Новыя тэлевізары купілі ў Койлы, Камень і ў Кленікі. Дзейнічаюць два фальклорныя калектывы: „Чыжавяне” ў Чыжах і „Незабудкі” ў Курашаве.

У клубах адбываюцца маладзёжныя танцавальныя вечарыны, рэпетыцыі мастацкіх ансамбляў ды сямейныя ўрачыстасці — вяселлі, хрэсьбіны і іншыя мерапрыемствы.

**(ЯЦ)**

# СВЯТЛІЦА Ў ВОЙШКАХ

Войшкі, што ў Юхнавецкай гміне, тыпова сельскагаспадарчая вёска. Жывуць тут пераважна земляробы-пенсіянеры, якія свае гаспадаркі перадалі дзяржаве або наследнікам.

Пры „камуне” грамадскім чынам пабудавалі святліцу, купіўшы вялікі драўляны будынак у горадзе, які там быў прызначаны да разбурэння. Паўстала прыгожая святліца, у якой адбываліся грамадскія сходы, а таксама маладзёжныя забавы і гульні. Цяпер будынак гэты пустуе, стаіць знішчаны, вокны выбіты, у сярэдзіне гуляе вецер і пужае тых, якія хацелі б туды заглянуць. Марнуецца грамадскае дабро і нікога гэта не турбуе. Можа, аднак, хтосьці працнецца і выратуе плён грамадскага намагання жыхароў Войшкаў?

**ЯВАР**

# „УМОМ РАСЕЮ НЕ ПАНЯЦЬ..."

„Умом Расею не паняць" — пісаў некалі паэт Цютчаў. Пасля 12 снежня мінулага года ўсё часцей чуваць аб „непрадказальнасці" Расеі. Свет даўно не перажываў такога шоку, як пасля дэмакратычных выбараў у Расеі. Што сталася — даўно вядома: ліберальна-дэмакратычная партыя Уладзіміра Жырыноўскага набрала звыш 23% галасоў у парламенцкіх выбарах, апярэдзіўшы Ельцынаўскі „Выбар Расеі" (каля 15%) і камуністаў, якія занялі месца зараз жа за рэфарматарамі. У парламенце, аднак, дзякуючы спецыфічнай выбарчай сістэме, дэмакраты-рэфарматары будуць мець усё роўна пераважную большасць дэпутатаў. Жырыноўскі тым не менш можа знайсці саюзнікаў і стварыць кааліцыю, якая здолее заблакаваць любыя рэформы. Дакладныя лічбы і будучыня кааліцыі тут як быццам наогул другарадныя.

Вядома, што каля 18-ці мільёнаў выбаршчыкаў аддалі свае галасы на невялікую партыю 46-цігадовага юрыста, які ўжо раз усплыў на паверхню палітычнага жыцця, заняўшы трэцяе месца ў прэзідэнцкіх выбарах. Вядомы ўжо сваімі радыкальнымі поглядамі, Жырыноўскі два гады быў ізаляваны ад шырэйшай публікі як вар'ят, але не такі ўжо небяспечны. І раптам сталася небывалая рэч: ён выйграў першыя свабодныя выбары. Яшчэ да нядаўна высмейваны, раптам выклікаў сапраўдны перапалох на Усходзе і на Захадзе. У Расеі дагэтуль не могуць ачуняць пасля выбарчага шоку, а Захад, які ўсіх мерае сваёй меркай, вытрэшчвае вочы і не можа зразумець, што сталася.

У Расеі на поспех Жырыноўскага адрэагавалі пераважна істэрычна. Дэмакраты пачалі яго абзываць фашыстам, другім Гітлерам, дыктатарам, пачалі ў паніцы фармаваць нейкія „антыфашысцкія блокі". Успомнілі ягоную кніжку „Бросок на юг" і знайшлі аналогію з „Майн Кампф". Журналісты пачалі капацца ў біяграфіі, нюхаючы, як спіць, што есць. Нібыта не антысеміты, але не прамінулі заявіць, што маці ў яго расейка, але бацька — яўрэй, што супрацоўнічаў у свой час з КГБ, што сябраваў з Кашпіроўскім, які мабыць навучыў яго гіпнатызаваць народ.

Лідэр партыі эканамічнай свабоды — Баравой — заявіў, што „абодва яны — Жырыноўскі і Кашпіроўскі — павінны апынуцца не ў парламенце, але за кратамі, а выбары пад уздзеяннем гіпнозу не павінны быць прызнаныя свабоднымі". „Тыя, што прагаласавалі за камуністаў і Жырыноўскага — гэта не народ, але чэрнь", — не маргнуўшы вокам ацаніла 18 мільёнаў суайчыннікаў імпэтная прадстаўніца Дэмакратычнага саюза — В. Навадворская. „Расея, ты адурэла, — яшчэ мацней загаласіў з тэлеэкрану Юры Каракін. — Галасуючы за Жырыноўскага — народ паступіў як статак бараноў".

Тут і выявілася вядомае з Польшчы пасля выбараў спекулятыўнае мысленне. Народ разумны — калі галасуе за каго трэба, але не даспелы да дэмакратыі, дурны або ашуканы папулістамі — калі прагаласаваў не за тых, што хацелася б. Пра разагнаны папярэдні Вярхоўны Савет гаварылася, што ён сфармаваны ў іншы час і ў іншай краіне і таму не адлюстроўвае рэальнага стану сучаснага грамадства. Як жа тады ацаніць цяперашні, дэмакратычна абраны парламент? Адлюстроўвае ён сапраўдную думку грамадства, ці можа і гэтым разам — не?

Выбарчая перамога Жырыноўскага выклікала таксама занепакоенасць у шэрагу краінаў. ЗША адрэагавалі на яе з прыкрасцю, але спакойна, як на вынік „шокавай тэрапіі", ад якой грамадства пакутуе і не дачакалася папраўы свайго лёсу. ЗША прызналі, што не прадбачылі такога выніку і што вымушаны цяпер перагледзець сваю палітыку ў адносінах да Расеі. Разам з іншымі заходнімі краінамі, ЗША паціху вымушаны былі прызнаць, што дабіваючыся ў дзверы НАТО Польшча, Венгрыя і Чэхія добра ведалі, чаму гэта робяць і што яны мелі рацыю. Прыйшлося таксама інакш паглядзець на пазіцыю ўпартай Украіны, якая ні за што не хоча аддаць ядзернай зброі без заходніх гарантый бяспекі.

Што тычыцца заявы Жырыноўскага аб вяртанні Расеі Аляскі, дык гэта ў Вашынгтоне не зрабіла спецыяльнага ўражання. Больш нервова на заявы Жырыноўскага адрэагавала Японія. Яе за жывое кранула заява, што „Курылы — расейская тэрыторыя і няма аб чым гаварыць". Польшча, словамі Браніслава Гярэмка, таксама занепакоілася перспектывай паўторнага падпарадкавання Расеі і ўсталявання дзяржаўнай мяжы паміж двума „сапраўды вялікімі народамі — расейскім і нямецкім". Запратэставала і Фінляндыя, якой Жырыноўскі параіў добра прыглядзецца карце з пачатку кастрычніка 1917-га года...

Трэба прызнаць, што ўсё гэта Жырыноўскі гаварыў і раней, але тады ўсё сказанае ім успрымалася як словы непапраўнага маніяка. Пасля выбараў, усе ранейшыя і пазнейшыя выказванні Жырыноўскага набралі цалкам іншага значэння, што чарговы раз пацвярджае старую праўду: вартасць і вага сказанага залежыць ад таго, які ранг таго, хто гэта сказаў. Прыгадайма тады, што такое сказаў Жырыноўскі:

— Былыя рэспублікі трэба прымусіць вярнуцца... перастаць дапамагаць ім. Хопіць ужо для ўсіх быць дабранькім... Трэба праваказаваць рода-племянныя войны... Яны самі пазабіваюцца: армяне — азербайджанцаў, афганцы — таджыкаў, таджыкі — узбекаў і так далей. Потым яны, гэта значыць тыя, што застануцца, самі папросяць зноў прыняць іх у Расею хаця б на правах валасці або ўезду *(Куранты, 16.12.93)*.

— Мы абавязкова павінны мець калоніі, — заявіў Уладзімір Вольфавіч. — Я мару аб тым, — пісаў ён раней у сваёй аўтабіяграфічнай кніжцы „Бросок на юг", — каб расейскія жаўнеры абмылі ногі ў цёплай вадзе Індыйскага акіяна і назаўсёды перайшлі на летнюю форму мундзіраў. Да Расеі павінны належаць Іран, Турцыя і Афганістан, дзе стаялі расейскія гарнізоны... Са светам нічога не станецца, калі ўвесь турэцкі народ прападзе... Расейская мова будзе афіцыйнай ад Кабула да Стамбула.

Будучы ў Балгарыі, ён заявіў, што прэзідэнт Жэлеў не надаецца на гэтую пасаду і прапанаваў замест яго свайго балгарскага дарадчыка Стойлава. Яшчэ больш зняважліва паставіўся Жырыноўскі да Румыніі, якую назваў „штучнай дзяржавай італьянскіх цыганоў..."

Выступаючы на шматлікіх мітынгах, гэты дасканалы прамоўца гаварыў:

— Мы працаўнікі разбурэння дзяржаўнага сектара, але і поўнасцю за прыватную ўласнасць, супраць разгону калхозаў, але і за фермерскія гаспадаркі... Мы за новую знешнюю палітыку, іншую ад той, якую праводзіць цяперашні ўрад *(Прэс-канферэнцыя, 13.12.93)*.

Каму трэба Жырыноўскі абяцаў: „Расея адродзіцца ад Ла-Манша да цёплых мораў мірным шляхам...

14-га снежня 1993 г. на прэс-канферэнцыі ён заявіў, што выступае „супраць далучэння Расеі да НАТО, супраць фашызму, камунізму, любых формаў дыскрымінацыі". Не забыўся і аб Праваслаўнай царкве, за што напэўна ўжо палюбілі яго нашы беластоцкія артадоксы: „Пад сцягам арміі Праваслаўнай царквы трэба назаўсёды скончыць з мусульманскай небяспекай. Наогул, Вам усім будзе добра са мною", — напісана было на перадвыбарчым плакаце, на якім красаваўся Жырыноўскі на фоне „Белага дома".

Адказваючы на з'едлівыя напады і цкаванне, Жырыноўскі заяўляў: „Мне не трэба мяняць свайго іміджу... Гэта Вы спрабуеце яго змяніць. Калі памёр Сталін, мне было 6 гадоў, але я ўжо тады зразумеў, чаму народ плача... Калі я з адзнакай скончыў Маскоўскі універсітэт — вы гэтага не бачыце. Калі я паспяхова прайшоў школу самай элітарнай афіцэрскай школы — вы гэтага не бачыце... Гэта вы спрабуеце прадставіць мяне то як варвара, то як экстрэміста".

Усё, што нагаварыў Жырыноўскі за апошнія гады, асабліва ў час выбарчай кампаніі, паддадзена цяпер амаль лабараторыйнаму аналізу. Адно толькі трэба ведаць. Як не шалёныя, небяспечныя ці нават вар'яцкія рэчы ён выказваў, ён гаварыў тое, што людзі хацелі пачуць. Ён добра ведаў, што каму гаварыць, быў адзіным, які прамаўляў не да мікрафона, але да жывых людзей. У часе, калі дэмакратычныя блокі не маглі паразумецца паміж сабою, Жырыноўскі нястомна працаваў, склікаў мітынгі, агітаваў колькі было моцы. Калі той жа народ, які нібыта „здурэў", можа і быў загіпнатызаваны, але ён гадзінамі слухаў чалавека, які на зразумелай яму мове гаварыў аб зразумелых праблемах. Гэта быў папулізм, але тым жа самым бясконца займаліся іншыя палітыкі. Усе абяцалі, толькі некаторыя ўжо мелі магчымасці выканаць абяцанні, і не выканалі іх.

Жырыноўскі ні за што пакуль не адказны. Ён адчуў, што народ апрача эканамічных — мае і псіхалагічныя патрэбы; пры матэрыяльнай галечы хоча мець хаця б пачуццё нацыянальнай годнасці і значэння ў свеце. Радыкальная, касмапалітычная дэмакратыя вядзе да абразы нацыянальнага гонару, страты ўпэўненасці ў сябе і ў сваю, некалі „вялікую", дзяржаву. Вось гэтым прыніжаным людзям Жырыноўскі заявіў тое, што чулі дзесяцігоддзямі і нават паверылі паводле прапагандысцкага прыёму Гебельса. „Мы — вялікі народ, мы — адна шостая зямной сушы... мы разбілі фашыстаў, мы першыя паляцелі ў космас" і так далей. Гэта была смешная гігантаманія, але народ, не ведаючы аб'ектыўнай праўды, задавальняўся і гэтым эрзацам сапраўднай велічыні. Такіх людзей мільёны і да іх, іграючы на нацыянальных пачуццях, Жырыноўскі загаварыў: „Нас прадаюць замежным капіталістам, раскрадаюць прыродныя багацці, высмоктваюць інтэлектуальны патэнцыял... Расцягнулі вялікую краіну „па нацыянальных кватэрах", але пара падняцца з каленяў". Жырыноўскі добра ведае псіхалогію расейцаў. Ён першы ўзняў праблему расейскай меншасці ў „блізкім замежжы", якую „нельга пакінуць у бядзе".

Жырыноўскага абвінавацілі ў расейскім шавінізме, але хто пацікавіўся настроямі мільёнаў звычайных людзей. Колькі такіх, каму абрыдла „вестэрнізацыя" Расеі, зняважлівае стаўленне да ейнай гісторыі, культуры і адметных традыцыяў! Прымітыўная рэклама шакаладак, крымінальныя шаблонныя фільмы і парнаграфія абражаюць пачуцці мільёнаў людзей. Тут за Ясенінам можна паўтарыць, што народ „не кабыла, не карова, не асёл — каб яго выводзілі са стойла". Калі Жырыноўскі заявіў, што „на тэлебачанні хацеў бы бачыць толькі сінявокіх бландзінаў", дык гэта сапраўды расізм. Хто аднак не згодзіцца з ім, калі хоча чуць чыстую, расейскую мову і бачыць на экране замест таннай заходняй халтуры найлепшыя дасягненні айчыннага мастацтва?

Хай сабе нехта кажа, што расейскі народ „здурэў", але за Жырыноўскага прагаласавалі людзі, якія стаміліся бяскарным беззаконнем, мафіёзнай вакханаліяй, дзяржаўнай карупцыяй і адсутнасцю элементарнага парадку ў краіне без вядучага аўтарытэту. „Дыхаць стала немагчыма, — заяўлялі людзі нават у глыбокай правінцыі,— замучылі крыміналісты, рабуюць, абдзіраюць, рэкетнічаюць, а ўлада — як быццам не існуе... Хай будзе хаця б і Сталін, хаця б і 37-ы год, але каб быў парадак"!

Працяглы эканамічны крызіс і рост злачыннасці прывялі да таго, што ў структуры каштоўнасцяў стала пераважаць нетрадыцыйная арыентацыя. З апытанняў вынікала, што напярэдадні выбараў „высокі ўзровень жыцця" быў найважнейшы для 73% насельніцтва, „грамадскі парадак" — для 67%, за „галоснасць, свабодай слова і дэмакратыяй" сумавала толькі 12%. У краіне, дзе распаўсюджана паняцце аб невычэрпным багацці, якое толькі дрэнна выкарыстоўваецца, 37% насельніцтва апынулася ніжэй афіцыйнага ўзроўню беднасці... Жырыноўскі абяцаў хутка навесці парадак ва ўсіх галінах жыцця. Яго могуць называць як хто хоча, але людзей, запісваючыся ў ягоную партыю, было столькі, што завалілася лесвіца.

Жырыноўскі выйграў не таму, што народ „здурэў". Народ нельга змяніць паводле свайго густу. Гэта толькі Хонекер, калі яму падказалі, што народ не любіць ні яго, ні партыі адказаў, што „прыйдзецца, відаць, змяніць народ". Хутчэй за ўсё трэба ўслухацца ў голас народа, які, дарэчы, у згодзе з прынцыпамі дэмакратыі, маючы нарэшце магчымасць свабодна выказаць сваю думку — выказаў яе. Людзі проста падтрымалі чалавека, які выказаў і х н ы я погляды. Найгоршае, і, бадай, найбольш небяспечнае тое, што з Жырыноўскім атаясамліваюць сябе мільёны людзей. Не над асобай Жырыноўскага, але над тым, ч а м у столькі людзей пайшло за ім, трэба сур'ёзна задумацца. „Зрабіўшы свае, — піша Ольга Кучкіна ў „Камсамольскай газеце" ад 21.12.1993г., — Жырыноўскага могуць адставіць, але той, хто зойме ягонае месца, будзе нашмат страшнейшы".

Не ведаю, ці так будзе і не хачу прадказваць непрадказальнае. Так ці інакш — „умом Расею не паняць"!

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК,**
Мюнхен

## МЫ НЕ СТРАЦІЛІ...

*Працяг са стар. 1*

Як здаецца, такім пераломным момантам была спрэчка за „Ніву". Кожны лічыў, што той, хто кантралюе „Ніву", можа кантраляваць настроі ў беларускім асяроддзі. Быў гэта час навукі палітычнай культуры. Пасля, як здаецца, „балячка лопнула". Адны і другія зразумелі, што такіх войнаў не выйграваецца, тым больш, што кожны мае свае неабвержныя аргументы.

Патрэбны быў выхад з сітуацыі, альбо (у чым мы асабліва любуемся) — ахвяры. На шчасце для цэлага асяроддзя, выхад знайшоўся і да таго вельмі просты: адышлі ад актыўнай палітычнай дзейнасці лідэры. Як першы адышоў Сакрат Яновіч, праз нейкі час зрабіў тое ж самае Аляксандр Баршчэўскі, а з апошнімі выбарамі — Яўген Чыквін.

Зрэшты, ужо і да выбараў мы крыху навучыліся і нешта зразумелі. Нягледзячы на балючае мінулае, патрапілі арганізавацца ў адзін выбарчы камітэт. Калі нехта стаіць з боку гэтых падзеяў, можа засмяяцца: ну і што з гэтага, і так мандата ў Сейм не заваявалі! Аднак, гледзячы праз прызму нашае рэчаіснасці, гэтае выбарчае перамір'е трэба бачыць як вялікі палітычны поспех новых лідэраў. Ніхто не змусіць нікога, каб любіў таго, каго ён не хоча, але існуюць інтарэсы вышэйшыя за свой панадворак і тады патрэбна палітычная спеласць. Зрэшты, умеем вучыцца. Старыя дзеячы, адыходзячы, далі шанц паказацца новым, самі на гэтым не трацячы. Наадварот, калі Сакрат Яновіч адышоў ад палітычнае дзейнасці, праз год часу выдаў друкам чатыры свае новыя кніжкі, на што раней не меў часу. Аляксандр Баршчэўскі заняўся навуковай дзейнасцю і неўзабаве атрымаў навуковую ступень прафесара. А думаю, што і друкарні не пашкодзіць, калі Яўген Чыквін будзе мець больш часу на мэнэджэрскую дзейнасць.

Ведаем, што каб кожны „стол" добра стаяў, патрэбны яму моцныя ўсе „ногі", не толькі гэтая палітычная. Тут, калі паглядзім, таксама няблага. У газетах пішуць пра нашых літаратараў, у слоўніку польскіх бізнесменаў, друкаваным у „Газеце выборчай", паяўляюцца беларускія вядомыя прозвішчы. Як адзіная нацыянальная меншасць маем сваю палітычную партыю, будуем новыя цэрквы, арганізуем фестывалі і наракаем на брак грошай. Словам, нармальна, як у кожным цывілізаваным народзе. Толькі не можам дазволіць сабе на адпачынак, а гэта ўжо праверым увесну, падчас надыходзячых самаўрадавых выбараў. „Róbmy swoje!", — як сказаў мне нядаўнім часам Славамір Іванюк з „Часопіса".

**УЛАДЗІМІР ПАЦ**

# А Я БОЛЬШ ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСКУЮ!

**Новую школу** ў Залуках пабудавалі ў 1969 годзе. Тады яшчэ вучылася тут 150 школьнікаў. Цяпер колькасць вучняў паменшылася ў тры разы. Усе класы спалучаныя. Працуе тут 8 настаўнікаў.

— Школа мае добрыя ўмовы для навучання. Няма толькі спартыўнай залы і заняткі па фізкультуры адбываюцца на калідоры. Адчуваем таксама фінансавыя цяжкасці, — кажа дырэктар Лілія Чэпель.

У школе

**працуюць спецыялісты.** — Маем магістра біялогіі, рускай мовы і фізкультуры. Два настаўнікі закончылі ліцэй, а два — тэхнікум. Няма паланіста, фізіка і матэматыка, – кажа дырэктар.

Няма таксама беларусіста.

Беларуская мова ў Залуках

**выкладаецца з перарывамі.** Першы заняпад наступіў у 70-х гадах. Толькі 6 гадоў назад навучанне ўзнавіла беларусістка Лена Радзіванюк, якая прыйшла ў школу навучаць польскай мове. Аднак сваім стараннем і заангажаваннем здолела яна вярнуць беларускую мову (Ленку памятаю са студэнцкіх часоў як актыўную дзяячку БАСу і Беларускай рады культуры пры Згуртаванні польскіх студэнтаў). Калі са школы адышла беларусістка, беларускую мову „ўзялі ў свае рукі” настаўнікі.

— Трэба было гэты прадмет утрымаць, — сцвярджае спадарыня Чэпель.

Цяпер беларускую мову навучаюць дзве настаўніцы: Лілія Чэпель (русістка) і выпускніца гайнаўскага беларускага ліцэя.

— Хацеў яшчэ навучаць адзін настаўнік, але пакуль што няма яму гадзін. У нашым наваколлі намя беларусістаў. Амаль усе яны з Гайнаўшчыны ці Бельшчыны. А тут, дзе выступае амаль літаратурная мова, на дзіва, іх няма. Каб у нас былі мясцовыя беларусісты, то, мабыць, і не было б перарываў у навучанні гэтага прадмета. Толькі цяпер ёсць яшчэ адна праблема — няма цэлага штату для настаўніка гэтага прадмета, — паясняе дырэктар.

Усе настаўнікі мясцовыя. Амаль

**усе ведаюць беларускую мову,** бо ў вёсцы гавораць „па-простаму” (гэта значыць па-беларуску). Толькі спадарыня Чэпель даязджае з Беластока. Са сваімі вучнямі настаўнікі гавораць папольску. Толькі на ўроках беларускай мовы „гэты язык” набывае права на ўжыванне.

—Я таксама карыстаюся беларускай мовай на ўроках польскай мовы, калі трэба паясніць дзецям правапіс „rz”, — кажа настаўнік Францішак Апановіч, які ўвесь час гаварыў са мной па-беларуску. Паказаў ён мне таксама кніжку „Песні” (Мінск, 1974 г.), прывезеную ім з курсаў у Менску. Настаўнікі напомнілі мне, што „pan Franek pisał wierszyki po białorusku”.

**Палова дзяцей** не вучыцца беларускай мове. У Залуках гэты прадмет вывучаюць многія католікі. Падыход „непатрэбнасці” сустракаецца пераважна з боку праваслаўных жыхароў.

— І гэта дзеці, якіх бацькі не вучыліся беларускай мове, — кажуць настаўніцы. — Нашая сітуацыя цяжкая. Тут у наваколлі толькі ў Залуках і Гарадку яшчэ навучаюць гэты прадмет. На з'ездзе БГКТ мы гаварылі, што трэба сустракацца з бацькамі і падымаць іх нацыянальную свядомасць. А так дзеці гавораць, што мова гэтая „лішняя”, што мяшае ім у вывучэнні польскай і рускай моў. Самі вяскоўцы не хочуць вучыць сваіх дзетак. Гавораць, што яны — палякі і хопіць ім таго, што ўсе і так тут гавораць „па-просту”.

**— Няма кніжак,** — кажа настаўніца. — Нам заўсёды на з'ездах гавораць, што „ўсё будзе” — але гэта працягваецца ў бясконцасць. Ёсць, несумненна прорва паміж узроўнем навучання беларускай і польскай моў. Калісь мы падпісваліся на „Ніву”, бо былі на гэта грошы з Куратарыі. Цяпер на часопісы грошай няма. Час да часу нехта купіць „Ніву” і тады яе чытаем.

**На сустрэчы з вучнямі** гаварылі мы пра „Зорку”. Дзеці любяць казкі і апавяданні. Калісь у іхняй школе была дзяўчынка, якая пісала вершы ў „Зорку”. Калі пытаюся, ці любяць беларускую мову таксама як польскую, дзеткі хорам заяўляюць што „polską”. Але калі настала цішыня, адзін хлопчык, які стаяў нед[illegible]анцы, смела заявіў:

— А я больш люблю беларускую!

Тады, за ім, пачуліся і іншыя галасы:

— Мы таксама любім, лёгка на ёй гаворыцца!

Відаць было і падтрымку з боку настаўнікаў. Усе гаварылі са мной па-беларуску.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**



*— Мы таксама любім беларускую мову, лёгка на ёй гаворыцца!*

---

# „Я — САМЫ ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК, ЧАСЦІНКА МАЙГО НАРОДА”

## Размова з НАТАЛЛЯЙ АРСЕННЕВАЙ

*— Паважаная спадарыня Наталля, напачатак дазвольце павіншаваць Вас, ад імя чытачоў і сяброў рэдакцыі „Нівы”, з Вашым юбілеем. Жыццёвы лёс закінуў быў Вас на нейкі час і ў наш Беласток.*

— Так, у 1941 годзе, пасля таго як вызвалілі мяне з Казахстана, працавала я два месяцы ў абласной газеце ў Беластоку, але ейнага загалоўка не памятаю. У Беластоку жыў тады і Танк, аднак у газеце ён рэдка бываў, бо ўвесь час раз'язджаў, займаўся арганізацыйнай дзейнасцю.

Аж тут пачалася новая вайна, бальшавікі ўцякалі, наступалі немцы. Я прайшла тады пехатою з Беластока ў Валожыншчыну, скуль паходзіў мой нябожчык муж (гэта каля 400 кіламетраў). Нагледзелася я тады на розныя жахі — тысячы людзей у дарозе, бомбы, выбухі, смерць... Я ўжо не магла пісаць так як раней:

*Нібы жоўтая восень,*
*стаю над жыцьцём*
*і гляджу на яго,*
*хоць навокал — змаганьне.*
*Мае вершы—*
*над сонным балотам трысьцё,*
*імгла сівая асеньняга раньня...*[1)]

Бо ж сапраўды, я раней сапраўднага жыцця не ведала. Жыла ў параўнаўча добрых умовах, мела мужа, двое дзяцей, ніколі раней не была ні галоднай, ні бяздомнай. А тут давялося сустрэцца з такімі жахамі! Мне сярод натоўпаў уцекачоў здавалася, што засталася я адна-адзінюткая, бездапаможная ў свеце. І неяк згінуў тады ўвесь страх, спаткання твар у твар з вайною я ўжо не баялася. Таму ў адным з вершаў я пісала:

*Лёс мне казаў сяньня быць*
*амазонкай,*
*меч даў у рукі, а сэрцу адвагу...*[2)]

*— Але якраз у Вашай творчасці амаль адсутнічаюць апісанні асабістых, выключна вашых перажыванняў.*

— Я ніколі не лічыла сябе нечым выключным. І ў той цяжкі час я была часцінкай народа, я цярпела не болей, чымсьці тысячы іншых людзей. Таму я — лічу — не магла замкнуцца толькі ў сабе і пісаць адно пра асабістае.

Думаю, што ўсе мы тады адчувалі супольнасць справы. Гляньце на нас, тых што апынуліся ў Амерыцы, на эміграцыі. Якім бы цяжкім ні было жыццё пры немцах, мы і ў тагачасных умовах стараліся зрабіць як найбольш. Мы змагаліся за адчыненне беларускіх школаў, стварылі тэатр, адным словам, арганізавалі сваё беларускае культурнае жыццё. Людзі галадалі, шмат чаго не ставала, але ж трэба было неяк жыць. Усе мы імкнуліся будаваць Беларусь!

*— Ці той дух зарадзіўся ў Вас у часе нямецкай акупацыі, ці жыў ён ужо і раней?*

— У нас, у Заходняй Беларусі, я лічу, што масавы адраджэнскі рух, абуджэнне свядомасці ў народзе, вялікі ўздым наступіў яшчэ ў час Грамады. Потым палякі Грамаду задушылі, усё зноў пачало паступова заміраць. І вось, з прыходам немцаў мы наважыліся яшчэ раз спрабаваць. І гэты дух у бальшыні з нас ужо не згас і дагэтуль.

Калі збярэцца нас тут хаця некалькі чалавек, мы дыскутуем, спяваем беларускія песні і адчуваем, што мы — народ, нармальнае грамадства. А ў Менску бяда, людзі нават па-беларуску не гавораць.

*— Які перыяд у сваім жыцці лічыце найважнейшым, што са свае творчасці найбольш цэніце?*

— Ведаеце, я неяк пра сваю творчасць раней не думала ў катэгорыях мастацкае вартасці. Не аналізавала яе. Прыходзілі ў галаву нейкія вобразы, я іх і запісвала. Праўда, бальшыню сваіх вершаў я пісала, як кажуць, „па натхненні”, але, калі патрэбныя былі песні для нашых жаўнераў, для СБМу, скаўтаў — іх я гэтаксама пісала. Толькі потым, перачытваючы іх нанава, я адчувала, ці напісала я сапраўды добры верш. Для прыкладу, песня „У гушчарах” пачала мне падабацца, калі яе ўжо масава спявалі. Падабаліся вершы народу — пачынала і я іх любіць.

Перакладала я таксама і шмат рэлігійных песняў, калядак, твораў для тэатра. Памятаю, у менскім тэатры ставілася драма Герхарта Гаўптмана „Патанулы звон”, якая мне вельмі падабалася і пра якую апошнім часам крыху забыліся.

Паэзія як быццам была маім ратункам, заглушала тую кашмарную рэчаіснасць, у якой мы змушаныя былі жыць. Па ўсёй Беларусі ішло змаганне між немцамі і савецкімі партызанамі, а цярпеў ад гэтага наш народ. Потым пачалі гарэць нашы вёскі. Жахі гэтыя я апісала як магла ў паэме „Зьнічы”.

У часе мае працы ў менскай „Беларускай газеце” знайшлі міну — о так як ад мяне да вас — на пяць хвілін перад тым, як мела яна ўзарвацца. І каб яна ўзарвалася, ад мяне нічога не засталося б. Відаць, памерці мне тады не было суджана. Таксама, ці раз вярталася я з працы позним вечарам. Іду адна пасярод руін, пра якія гаварылі, што там хаваліся партызаны. І таксама нічога благога мне неяк не сталася. Перад вайною я б ніколі не паважылася на нешта такое. Так, сапраўды тады „лёс мне казаў быць амазонкай”.

Вось таму я і лічу, што найбольш вартасныя мае творы — гэта творы ваеннага часу. Тады, як ніколі ні раней, ні пазней, я адчувала сябе адной, хоць і маленькай часткай нашага шматпакутнага беларускага народа.

*— Хто з людзей, з якімі даводзілася Вам тады супрацоўнічаць, запамятаўся Вам найлепш?*

— Найбольш супрацоўнічала я з кампазітарам Міколам Куліковічам, з якім мы супольна рыхтавалі оперы. Найлепшымі з іх я лічу: „Усяслаў Чарадзей” і „Лясное возера”. Што датычыць маіх сяброў па пяру, найбольш цаніла я Алеся Салаўя. На маю думку, гэта быў вельмі здольны малады паэт. Быў яшчэ адзін таленавіты паэт, якога я цаніла — Лявон Случчанін.

*— Ці пазнейшае Ваша жыццё і творчасць лічыце натуральным працягам таго, што распачалі ў час вайны?*

— Так. Хаця і ў Нямеччыне, і ў Амерыцы жылося не лёгка, але я ніколі не кідалася ў роспач. Калі мы сюды прыехалі — не так, як сённяшнія эмігранты, якія адразу патрабуюць дапамогі — мы нічога ад нікога не патрабавалі. Кожны з нас браўся за любую працу, якая яму траплялася, каб хутчэй стаць незалежным, каб нічога нікому не быць вінаватым. Я трапіла ў кансервную фабрыку. Не скажу, каб праца была надта прыемная, салёная вадкасць раз'ядала скуру на руках, але неяк пра гэта не думалася. Потым перайшла я ў фабрыку

☞ *Працяг на стар. 10*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ*

## Калі прыйшло на Беларусь хрысціянства?

Першыя хрысціянскія місіянеры з'явіліся на Беларусі, відаць, яшчэ ў IX стагоддзі. Іх станавілася тым больш, чым хутчэй прымалі веру Хрыстову суседнія еўрапейскія народы. Адным з такіх місіянераў быў ісландзец Торвальд Вандроўнік, які ў X стагоддзі прапаведаваў хрысціянскія ідэі ў Полацку і пазней быў пахаваны тут у заснаваным манастыры Іаана Прадцечы.

Хрысціянамі былі нашы славутыя валадары: княгіня Рагнеда (у манастве Анастасія), яе сын Ізяслаў і ўсе наступныя полацкія князі. Хрысціянства ішло на Беларусь як з Захаду (з Рыма), так і з Усходу (з Канстанцінопаля), хоць да сярэдзіны XI стагоддзя істотнай розніцы паміж гэтымі дзвюма плынямі не было.

Каля 992 года была заснаваная Полацкая епархія (у далейшым праваслаўная), на пачатку XI стагоддзя — тураўская (каталіцкая). Першы полацкі епіскап, пра якога згадвае летапіс, быў Міна (1104 год). Але, пэўна ж, былі святары і да яго, у тыя часы, калі полацкі князь Усяслаў Чарадзей збудаваў у нашай старажытнай сталіцы храм Святой Сафіі (1055 год).

Хрысціянства на Беларусь прыйшло ў тым жа часе, як і ў многія іншыя краіны Еўропы (Данію, Швецыю, Нарвегію, Польшчу, Харватыю). Панавальнай жа рэлігіяй яго зрабілася толькі ў канцы XII — XIII стагоддзі, бо сутыкнулася на Беларусі з моцнымі паганскімі (язычніцкімі) традыцыямі. Тысячагадовае суіснаванне ў нас паганства і хрысціянства сталася падставаю для верацярплівасці, талерантнасці нашага народа да розных рэлігіяў.



*Бабулі лепшае няма, як мая, у цэлым свеце...*

**Фота Р. Сянько**

## ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

11

### Загадка

*ДЖ гаворыць: „Я адзін".*
*ДЗ пярэчыць: „Двое!"*
*А значэнне ў іх, сябры,*
*дык адно і тое.*
*Хто, скажыце, адгадаў —*
*Што гэта такое?*

### Ці ёсць гультаі?

Сабраліся літары на працу. Майстар Алфавіт паставіў іх у строй і аб'явіў:

— Сёння работы будзе шмат, так што аднаму з ёю не справіцца. Таму кожнай з вас трэба набраць сабе брыгаду — слова.

Замітусіліся літары, адна за адну хапаюцца, адна адну цягнуць — усім на працу хочацца хутчэй. І вось яны ўжо стаяць у радках словамі. Толькі *Й*, *У*, *Ы* яшчэ стаяць убаку.

— Ах вы, гультаі, — дакараў іх майстар Алфавіт. — А вы чаго чакаеце? Хутчэй на месца! Працаваць пара.

— Я не гультай, — пярэчыць *У*, — проста літары вельмі шчыльна сталі, а я ж не магу стаць уперадзе іх, бо перада мною павінен быць галосны. Дазвольце мне стаць вось тут — я не парушу парадку, толькі змяню сэнс слова.

— Добра, станавіся, — сказаў Алфавіт. — А ты, *Й*, чаму не ў брыгадзе?

— Я не ведаю, з кім мне стаць. Хіба ж я магу стаяць у пачатку слова?

— А ты забыўся, што ёсць такія словы? Пашукай у слоўніках або на карце, пакуль я разбяруся з *Ы*... А дзе ж *Ы*?

А *Ы* ўжо схавалася за нейкае слова і

## ЦЯЖКА БЫЦЬ ДАРОСЛЫМ

Самы непрыемны занятак для Дзяніскі — есці. Калі ён быў маленькі, яго кармілі з лыжкі. Цяпер усё інакш.

— Ты ўжо дарослы, павінен есці сам, — толькі і чуе Дзяніска то ад мамы, то ад таты.

— Цяжка быць дарослым! — уздыхае хлопчык.

І сёння вось не паспеў Дзяніска сесці за стол, як мама адразу загадала:

— Еш хутчэй! Я не магу каля цябе стаяць. У мяне шмат спраў.

Лёгка сказаць: хутчэй!

Дзяніска з'еў дзве лыжкі супу. І пачаў разглядаць талерку. Яна нагадвае яму азерца. Гушча — гэта дно. Зверху, зразумела, вада. Сямтам плаваюць лісцікі кропу — гэта трава, што расце каля берага. Па азерцы рухаецца лодка — гэта лыжка. У лодцы, вядома, сядзіць ён, смелы і дужы Дзяніс, спрытна грабе вёсламі...

Незвычайную гульню спыняе мама:

— Бацька, ты толькі паглядзі, што гэта за дзіця?! Зноў сядзіць над поўнай талеркай. І так кожны дзень! Цярпення няма.

З татам лепш не спрачацца. Дзяніска адчувае, што насоўваецца хмара. І, каб не грымнуў гром, бярэцца за лыжку. Шчыруе, пакуль маці не выходзіць з кухні.

У гэты момант за акном пачынае тарахцець матацыкл. Падсунуўшы табурэтку да акна, Дзяніска хуценька ўзбіраецца на яе. У двары два матацыклы. На іх — хлопцы ў шлемах. Калі Дзяніска падрасце, ён абавязкова папросіць тату, каб і яму купіў матацыкл.

Услед за матацыклістамі ў двор уязджае грузавік. У яго кузаве цэлая гара жоўтага пяску. „Няхай бы гэты пясок нам у пясочніцу ссыпалі, — думае Дзяніска. — Зусім будаваць няма з чаго!".

І тут краёчкам вока заўважае: на кухню вяртаецца мама. Хуценька садзіцца за стол і робіць выгляд, што старанна есць.

— Гора ты маё! — кажа мама. — Глядзець балюча, як ты ясі. Давай дапамагу, а то ўсе сны дзеці разбяруць, табе не застанецца.

Дзяніска не заўважыў, як даеў суп, потым бульбу з агурком, выпіў кампот. Цяпер у яго добры настрой. Сумны абавязак ён адбыў.

Адно не можа зразумець Дзяніска: нашто столькі часу губляюць на яду, ды яшчэ на сон удзень, калі вакол столькі цікавага? Ох, цяжка быць дарослым!

**ТАЦЦЯНА МУШЫНСКАЯ**

## СОН

Сыну Самсона Сымону сасніўся сон: сівы сом саліў срабрыстую салаку, складваў у слоік.

Сымон спытаў:

— Слухай, сом, салёнай салацы страшна?

— Не страшна, а смешна, — сказаў сом. — Скача, як спалоханая.

— Сом-свавольнік, спачатку сябе абсып соллю.

— С-сымон, с-супакойся.

— Сыч сівы, пусці салаку!..

Сом-таўстун сыпануў соллю ў Сымона. Спрытна Сымон адхіснуўся, смела па-снайперску пусціў стралу ў сома. Вусач сярдзіта стагнаў:

— С-сорамна сыну Самсона Сымону страляць стралой у старога сома.

— А старому сому не сорамна саліць соллю салаку?

Спрачаліся сом і Сымон увесь сон. Спрасоння санлівы Сымон стаў скідваць з сябе прасціну:

— С-сом!.. С-сам!.. С-соль!.. С-стой!..

Сонца свяціла ў спальню Сымона. Сом і сон скокнулі ў сінюю створку акна.

Сымон сеў за стол. Старанна выпісваў у сшытак словы з літарай С.

Сымон сказаў сястры Соні:

— Соня, дзівіся: С — як касмічны месячык!..

Сястра ўсміхнулася:

— Вось хто пасылае соням салодкія і страшныя сны.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

## КРЫЖАВАНКА

| ■ | А | Б | В | Г | Д |
|---|---|---|---|---|---|
| I | ■ | | ■ | | ■ |
| II | 7 | 6 | | 2 | |
| III | ■ | | ■ | | ■ |
| IV | 3 | 1 | | | |
| V | ■ | 4 | ■ | 5 | ■ |

II — клекатун (на малюнку), IV — паглыбленне ў зямлі для захоўвання бульбы або гародніны.

Б — рукаятка, Г — дуе ў полі.

Літары з пазначаных клетак складуць рашэнне — назву рабочага, які працуе ў лесе.

Адказаў чакаем два тыдні.



ціхенька смяецца: слова зусім не змянілася, толькі форма яго стала іншай. Аглядзеў майстар радкі слоў — усё ў парадку. Вось і *Й* бяжыць, за сабою некалькі літар цягне, цэлае слова. Ніводнага гультая!

Адгадайце, у якое слова папрасілася *У*; якую брыгаду падабрала сабе *Й*; за якое слова схавалася *Ы*.

### Вялікая і малая

Настаўнік гісторыі даў вучням заданне: разгледзець мастацкія рэпрадукцыі ў альбоме, прысвечаным дзейнасці Пятра І. Адказваючы ў наступны раз урок, Барыс расказаў пра адну з карцін, але забыўся прозвішча мастака.

— Ну, нічога, ты добра ведаеш матэрыял, а прозвішча мастака пастарайся ўспомніць, пазней скажаш.

Наступны вучань пайшоў да дошкі, Барыс — на сваё месца і, сядаючы, раптам выгукнуў: *„Ге!"*

Ліда, што сядзела з ім побач, уздрыгнула: чаго ён крычыць? А Барыс, глядзячы на настаўніка, зноў паўтарыў: „Ге". Той моўчкі кіўнуў. А Ліда сказала суседу:

— Калі ты літару назваў, дык трэба сказаць *гэ*.

— Не літара гэта, а прозвішча мастака. Прозвішча, у якім дзве літары.

— Цікава...— Ліда задумалася, а потым сказала: — А ведаеш, я прыдумала гульню: запісаць імёны, прозвішчы, назвы розныя, якія складаюцца з дзвюх літар — адной вялікай і адной малой. Я ўжо некалькі такіх успомніла. Давай гуляць?

Давай, гэта сапраўды цікава. Толькі не цяпер, а пасля ўрокаў, і можа іншыя да нас далучацца.

— Вось было б добра! — узрадавалася Ліда.

Дык далучайцеся і вы да гульні. Пагартайце слоўнікі, павандруйце па геаграфічных картах. Хто больш запіша такіх слоў?

### „Зацвярдзелыя" словы

Вы ведаеце, што некаторыя зычныя гукі з'яўляюцца зацвярдзелымі. Яны так зацвярдзелі, што ніколі не бываюць мяккімі. А словы? Вядома, зацвярдзелых слоў не бывае, але ёсць словы, і іх нямала, што не маюць іншых зычных, акрамя зацвярдзелых *(шар, Шура, ружа* і інш.).

Хто больш запіша такіх слоў за пяць мінут?

### Цэла — цела

Звярніце ўвагу на гэтыя два словы — першая літара ў абодвух *ц*. А гук? У пачатку слова *цэла* — зацвярдзелы [ц]. Як ні змяняйце слова — *цэлы, цэласны, цалейшы, цаліна* — ён ніколі не будзе ў гэтым корані мяккім. А ў пачатку слова *цела* — мяккі гук [т'] (у рускай мове таксама [т']). Такім чынам, два розныя гукі абазначаюцца адной літарай. Гэта частая з'ява ў мове, бо літар значна менш, чым гукаў. Так, у словах *быць — біць* літара *б*, у словах *маса — мяса* літара *м* таксама абазначаюць два розныя гукі, цвёрды і мяккі. Ведаючы гэта, можна пачынаць гульню.

Перабярыце ў памяці алфавіт і, „злавіўшы" ў ім літару, якая можа абазначаць і цвёрдыя, і мяккія гукі, запішыце парамі словы, у якіх яны ў пачатку. Кожнае слова — ачко; хто здаў работу першым — тры ачкі дадаткова, другім — два, трэцім — адно. Але калі яны паспяшаліся і прапусцілі або не ўспомнілі патрэбныя літары, то пры падліку ачкоў выявіцца, што і дадатковыя не далі ім першынства.

*(Працяг у наступным нумары)*

## ШКЕЛЬЦЫ

*сантыментальныя ўспаміны*
*Маёй Маме*

### 1

### БУМС!... БУМС!

— Бумс! Бумс! — урачыстая музыка чамусьці заўсёды пачыналася падчас „ціхай гадзіны".

— Дзяўчаты! Зноў хаваюць! — навучэнкі пятага класа санаторна-лясной школы „прыліплі" да вокнаў спальні. Пад вокнамі густа перапляталіся голыя галіны дрэваў. Унізе, пад зарасцямі малінніку і ажыны, аднеліся ўзгорачкі, паблісквау метал крыжоў... Мясцовыя могілкі, запушчаныя да агіды. Як апынуўся шэры стандартны будынак школы-інтэрната на такім недарэчным месцы? Была ў мяне гіпотэза — так і не праверана — што стаяў тут некалі храм, пэўна царква — могілкі ж праваслаўныя. Але савецкі народ сантыментаў пазбаўлены. Няхай хворыя дзеці дыхаюць кіслародам, што выраблююць счарнелыя падазрона шапатлівыя і разгалінастыя могілкавыя дрэвы.

— Хаваюць ваеннага, — зазначыла Ірка, прыгожая блакітнавокая дзяўчынка (яна паступіла ў СЛШ з дыгназам „хранічнае запаленне лёгкіх").

— Вунь яго фуражку трымаюць на падушачцы!

Ірцы не пасавала кароткая хлапечая стрыжка, але мы ўсе даўно развіталіся з косамі — так было прасцей і нам, і выхавацелям...

Каб не густыя карункі галінаў, цырымонію было б відаць зусім выразна. Але дрэвы, у адрозненне ад людзей, нечага саромеліся і хавалі ад дзіцячых вачэй сумныя падрабязнасці.

А мы... Хіба нам было страшна? Кожная з нас зведала не адну бальніцу, прыступы задухі і пекла медыцынскіх працэдур. А ў бальніцы смерць — не пудзіла, яна звычайная санітарка: выконвае сваю долю работы, не прыцягваючы асаблівай увагі, раўнадушная і старанная. Гэта было наша звычайнае быццё. У санаторнаглясную школу адны траплялі, як я, з найлепшых намераў бацькоў — няхай дзіця падлечыцца, другія — „спіхнутыя" на паўдзетдомаўскае выхаванне мачахамі, айчымамі ці роднымі бацькамі-алкаголікамі...

— Бумс-бумс — бум-бумс! — усё гучала музыка. Ля труны, як лялькі, сінхронна хісталіся дзве жанчыны ў чорным. Што ж такое была смерць для нас, адзінаццацігадовых? Таямніца, чароўная і страшная. Казкі — „жахалкі" нанач... Прывіды — Чорная Рука, Фосфарныя слупы... Забароненасць і нейкая спакуса...

— Бумс... Бумс... Бумс-бумс... — таннная медзь пахавальнага аркестра звягнула апошні раз. Мы неахвотна вярнуліся ў настылыя ложкі.

Ноччу ў Інгі Радзюн зноў паўтарыўся прыступ астмы. Інга адрывіста хапала паветра сінягубым ротам, як белая сумная рыба, і мы вялі яе ўніз, на першы паверх, дзе заўсёды дзяжурыла пажылая санітарка і знаходзіліся медыцынскія памяшканні з інгалятарамі для астматыкаў і іншай страшнаватай апаратурай... Пусты калідор першага паверха з шэрай бетоннай падлогай залівала прывіднае святло люмінесцэнтных лямпаў, і ў гэтым таксама была таямніца і подых смерці...

З тых часоў я не баюся могілак.

*(Працяг у наступным нумары)*

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

## ВАСІЛЁК

Рос ка-ля да- ро- гі мі -лы ва- сі-лёк. Шмат ка-го з пра
хо- жых ва- біў ён зда-лёк. Ва- сіль- ка пя-
шчот-на ве-цер ка- лы- хаў, жа- ва-ра- нак пе сь-ню
ва- сіль-ку сьпя-ваў.

*(павольна, пяшчотна)*

верш **Васіля Жуковіча**
музыка **Змітрака Яўтуховіча**

Рос каля дарогі мілы васілёк.
Шмат каго з прахожых вабіў ён здалёк.
Васілька пяшчотна вецер калыхаў,
Жаваранак песню васільку спяваў.
Васілька пяшчотна вецер калыхаў,
Жаваранак песню васільку спяваў.

Праляцела лета, адышло цяпло.
Поле і дарогі снегам замяло.
Не чуваць над полем песні жаўрука,
Сіняя пагасла зорка васілька.
Не чуваць над полем песні жаўрука,
Сіняя пагасла зорка васілька.

Прыйдзе травень, прыйдзе ў ціхі наш куток,
Ля дарогі ўзыдзе мілы васілёк.

*(заўвага: апошнія радкі спяваюцца на матыў прыпева, як дадатак (Прыйдзе...).*

**БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ**

## У ГАРАДКІ

Двое хлопчыкаў бяруць раней прыгатаваныя роўна адпілаваныя 24 калодачкі даўжынёю каля 3 вяршкоў [1)] кожная і 4 палкі даўжынёю каля 3/4 аршына [2)] кожная. Калодачкі і палкі дзеляць паміж сабою, потым выбіраюць роўнае месца, становяцца адзін ад аднаго на адлегласці 20 крокаў і чэрцяць палкамі на зямлі два квадраты, якія называюцца гарадкамі. На тым боку квадрата, які бліжэй да праціўніка, яны расстаўляюць 12 калодачак на роўнай адлегласці адна ад адной, пасля кожны з іх становіцца за сваім гарадком і адзін з іх кідае спачатку адну, а потым і другую палку ў калодачкі гарадка праціўніка. Калі яму ўдаецца выбіць з гарадка або перакуліць некалькі калодачак, то ён атрымлівае права выбіваць калодачкі да канца гульні з сярэдзіны адлегласці паміж гарадкамі. Тыя калодачкі, якія нейкім чынам не выкаціліся з гарадка, а засталіся пасярэдзіне яго або на лініі квадрата, лічацца не выбітымі. Ставіць іх нельга, акрамя тых, што на мяжы гарадка, і трэба шмат спрыту, каб выбіць іх з гарадка. Галоўная мэта кожнага хлопчыка заключаецца ў тым, каб выбіць усе калодачкі з гарадка праціўніка. Калі хто-небудзь з хлопчыкаў раней выб'е калодачкі з гарадка праціўніка, то той гарадок лічыцца заваяваным, і былы гаспадар яго павінен пакорліва ісці ў гарадок пераможцы, браць праціўніка на плечы і несці ў свой гарадок, дзе ён становіцца гаспадаром. Яму ўжо там прыгатаваны і пастаўлены калодачкі. Сам жа прайграўшы ідзе ў гарадок праціўніка. Права біць першым мае пераможца.

*1) Вяршок — мера даўжыні, роўная 4,4 см.*
*2) Аршын — мера даўжыні, роўная 71,12 см.*

## ЛІЧЫЛКІ

Кацілася торба
З высокага горба,
У гэтай торбе
Хлеб і рыс,
З кім ты хочаш,
З тым дзяліс.

* * *

Цынцы-брынцы, балалайка,
Цынцы-брынцы, паіграй-ка.
Цынцы-брынцы, не хачу,
Цынцы-брынцы, спаць хачу.
Цынцы-брынцы, хто стучыцць?
Цынцы-брынцы, дзевачка.
Цынцы-брынцы, як завуць?
Цынцы-брынцы, Евачка.

* * *

Цынцы-брынцы, два кальца
Выстругалі малайца,
На святой нядзельцы
Здзелалі кацельцы
Кацельцы упалі,
На кузню сказалі.
Кузня божыцца: — Не я,
Балалаечка мая.
Балалаечка-гудок,
Разваліўся мой дамок.

* * *

Аты-багаты, шлі салдаты,
Аты-багаты, на базар,
Аты-багаты, што купілі?
Аты-багаты, самавар.
Аты-багаты, колькі стоіць?
Аты-багаты, тры рубля.
Аты-багаты, хто выходзіць?

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**28 - 10 - 1989 г.**

У настроі прыезду Данчыка. Віталі яго з маці на беластоцкай станцыі, заўчора а 8.30 (БАСаўцы, крыху дарослых; у сераду — пасля майго выкладу на Бел. нар. універ. — мелі нараду наконт праграмы знаходжання ў нас госця). Кватаруюць — у віле Бародаў (— Скаржынскага, 10; Петрашы). Поўны камфорт.

У чацвер і ў пятніцу — я ў Варшаве: увечары — сустрэча ў клубе БГКТ (запісаўся ў мае знаёмыя В. Шуткевіч, карэспандэнт „Камсамольскай праўды", беларускі паэт), а назаўтра — са студэнтамі Варшаўскага універсітэту. — Новыя часы і беларуская меншасць.

Гутарка (26-га) з Б. Бэрдыхоўскай, той самай, якая цяпер — дарадца па справах нац. менш. у Міністэрстве культуры. Перш наперш — зрабіць штодзённымі бел. перадачы па беластоцкім радыё. Прывёз я з сабою каля 15 тыс. подпісаў пад адпаведным прашэннем (пакінуў іх у канцыляры Дравіча, шэфа польскага радыё- і тэлевяшчання). Бяда будзе знайсці адпаведныя грошы на далейшую дзейнасць БГКТ (рэформа абмяжоўвае сродкі). (...)

Сёння — семінар „Белавежы" (імпрэза Чыквіна). Неблагі даклад дац. Пяткевіча. Перапынак на сустрэчу з Данчыкам (— у БССР меў к. 20-ці канцэртаў, па адным у Полацку і ў Гародні; панурае ўражанне на яго зрабіў цывілізацыйны ўзровень: беднасць і таталізм).

З ім, сп. Юліяй і Лёнікам — абедалі ў рэст. „Крышталь". Затым — з'ездзілі ў Крынкі; трохі агледзелі мястэчка; паўгадзіны ў нашым там доме.

Паездка ў Варшаву — на два дні — выратавала мяне ад значнай часткі стрэсаў, якія былі б немінучымі, калі б ад пачатку трэба было б быць у тлуме вакол Данч.

**29 - 10 - 1989 г.**

Два канцэрты Данчыка ў беластоцкай філармоніі. Перапоўненая зала ашалела! Беларускія патрыятычныя песні яго слухалі стоячы, воплескам ды „бісам" здавалася — не будзе канца... Сёй-той, звычайна, плакаў. Амплуа Данчыка ў тым, што ён — амерыканец і беларускі спявак з бездакорным беларускім маўленнем, еўрапейскай культурай выканання, паводзінаў. Выступалі і „Дубіны", але яны — гэта варвары ў параўнанні з Данчыкам.

БАСаўцы прадавалі ў фае беларускія выданні і распаўсюджвалі дакументы Беларускага грамадскага камітэту „Грамада" (першая порцыя іх імгненна разышлася па руках!). (...)

**31 - 10 - 1989 г.**

(...) Колькі ўжо беларускіх цэнтраў выфармоўваецца? А яшчэ і Барскі заеўся сваю партыю ўтварыць! (...) Беларуская партыя роўных? Цацка для чэрні, ці ўсур'ёз?

(...) З Халецкай-Палоцкай пра БГК „Грамада" (са Стахвюком і Антосем — трэба іх экспанаваць). Думаю так: сама аб'ектыўная сітуацыя падганяе зусім новых актывістаў у наш бок. Пашырацца кантакты з эміграцыяй і завяжуцца тут фірмы са змешаным капіталам, якія дадуць сапраўдныя грошы на сапраўдную палітычную дзейнасць. Толькі, каб так не ўцякалі... Брат Я. Максімюка ўжо асеў у Radio Vaticana (збег цераз Аўстрыю). Хто ж цяпер будзе рабіць „Сустрэчы"? І Ваўранюк думае драпануць... Яшчэ трохі, а БАС застанецца без кіраўніцтва!

**07 - 11 - 1989 г.**

Пленум ГП БГКТ (05-га). Пад знакам беларускай аўтаноміі (расхапілі дакументы „Грамады"!). Упершыню за ўсю гісторыю Таварыства — быў духоўнік, а. Жалезняковіч, і меў прамову. Прыйшоў пасол Чыквін (Яўген), і Цімашэвіч, хоць і не кеміць ён па-беларуску. Такая грымотная беларусізацыя — не столькі дзяяцкая заслуга, колькі вынік упадку камунізму (нямаш да каго ўжо бегчы з просьбамі ды... дзякаваць). Беларускі ручаёк раптам зашуміць рэчкаю. Нядоўгім будзе гэты імпэт, калі не зможам стварыць яму моцную фінансавую фундаментоўку. (...)

**08 - 11 - 1989 г.**

(...) У „Літаратуры і мастацтве" ад 27.X. — допіс айца Чарняўскага „Беларусаў не спыталі...". Ватыкан назначыў біскупам Беларусі паляка Кандрусевіча, які, вядома, будзе ўбудоўваць польскасць (Чарн. пра гэта адкрыта не гаворыць, — абавязвае дысцыпліна, — але такі кантэкст ягонага „пісьма").

З падобнымі намёкамі выйшлі кастрычніцкія „Хрысціянскія навіны" пад рэд. Янкі Мойсіка (Radio Vaticana). Адкапалі дзеля гэтага той колішні арт. „Czy Pan Bóg nie rozumie po białorusku?", пабудаваўшы на ім свае рэфлексіі. (...)

„Tyle mówi się o tolerancji", — піша Шаховіч у тых жа „Кантрастах". А беларусаў душылі і душаць. І атэісты, і рэлігіянты. (...)

*(Працяг будзе)*

# ШТО З ЦЭНТРАМ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ?

З інфармацыі ў „Часопісе" вынікае, што з боку Рэспублікі Беларусь выйшла ініцыятыва стварыць Цэнтр беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Справа Цэнтра беларускай культуры цягнецца ўжо добрых некалькі гадоў. Для ўсіх свядомых беларусаў існаванне ЦБК з'яўляецца неабходным. Маю тут на думцы свядомых беларусаў у Польшчы, бо стварэнне ЦБК у Рэспубліцы Беларусь — гэта як бы справа недарэчная. Але калі, як піша „Часопіс", 30% жыхароў Беларусі хоча прылучыць Беларусь да Расеі, тады такі цэнтр у Менску быў бы мэтазгодны. Не ведаю, якія аргументы скарысталі гайнаўскія дзеячы, каб пераканаць пасла РБ у Польшчы Ул. Сянько стварыць Цэнтр беларускай культуры ў Гайнаўцы. Думаю, што дыскусія аб цэнтры павінна быць публічнай; усё ж справа датычыць усіх нас, беларусаў, а не толькі дзеячоў. Аднак факта, што ўжо ў Гайнаўцы стаіць агромністы будынак Беларускага музея, у якім можна было б размясціць цэнтр, недастаткова! Ці хтосьці падумаў, якія людзі будуць ствараць цэнтр у Гайнаўцы? Хто будзе там наштодзень займацца нашай культурай? У Гайнаўцы, апрача будынка і спадара Канстанціна Майсені, іншых людзей не відаць, бо калі б былі, дык неяк выявіліся б на публічным форуме нашага беларускага існавання ў РП. Калі б моцнай была беларускасць у Гайнаўцы, бо думаю, што 70-80% жыхароў Гайнаўкі — гэта беларусы, то ў школах беларускай мове вучылася б з 60-70% дзяцей, а не лічаныя вучні.

Я думаю, што гайнаўскія дзеячы, ствараючы ў сябе ЦБК, толькі сабе арганізоўваюць месцы працы. А гэта не так. Для існавання Цэнтра патрэбны не дзеячы, але спецыялісты, якіх у Гайнаўцы проста няма. Дзіўна, што аб гэтым не падумаў пасол Ул. Сянько. Калі нехта думае, што цэнтр павядуць спецыялісты з Рэспублікі Беларусь, дык кепска думае. Яны там, на месцы ў РБ, павінны весці сваю працу, а тут маем сваіх беларускіх спецыялістаў, якія паспяхова могуць займацца беларускай культурай Беласточчыны. Гэта не значыць, што не трэба, каб РБ успамагала дзейнасць Цэнтра, але яго існаванне мае быць аўтаномнае, і не можа быць залежнае ад чыноўнікаў з Менска ці пасольства ў Варшаве.

Фінансавай падставай існавання Цэнтра можа быць толькі бюджэт РП.

Трэба галосна падумаць над статутам такога Цэнтра. Не можа ён стаць згуртаваннем „Нівы", „Часопіса", БАС, БГКТ, БДА, „Белавежы", ЗБМ і астатніх арганізацый. Цэнтру, апрача людзей, патрэбна канцэпцыя, неабмежаваная вузкім абсягам дзейнасці, якая зводзілася б да школьніцтва, гісторыі, выдавецкай дзейнасці... Канцэпцыю трэба выпрацаваць, узяўшы пад увагу нашы магчымасці і патрэбы.

Калі будзе ажыццяўляцца ідэя Цэнтра ў Беластоку, тады, думаю, „Ніва" распачне дыскусію над канцэпцыяй Цэнтра беларускай культуры.

**МІХАСЬ МАХНАЦКІ**

# ЧАРОЎНАСЦЬ ГРАХУ

У Беластоку культурнае жыццё ніколі не было багатае. Асабліва цяпер, калі эканамічны крызіс абмяжаваў усю дзейнасць у гэтай галіне, наш горад стаў пераўтварацца амаль у культурную пустыню. На тутэйшым рынку дамінуюць творы прымеркаваныя да інтэлектуальнага ўзроўню чвэрцьінтэлігента і навоўзбагачанага сноба так, як кіно з амерыканскім рэпертуарам ці більярд для фінансавай эліты з менталітэтам крымінальнай хеўры.

Час ад часу здараецца нешта ў культурным жыцці горада, што варта пабачыць, пачуць — што астаецца ў памяці надаўжэй. Не ведаю чаму, але такой установай, якая выклікае ў мяне незабыўнае ўражанне, з'яўляецца апошнім часам Школьны тэатр, які дзейнічае ў Беластоку пры вуліцы Сянкевіча, 14. Год таму студэнты Вышэйшай дзяржаўнай тэатральнай школы паказалі там п'есу „Caprichios", якая была тады адметнай падзеяй у тэатральным жыцці нашага правінцыяльнага горада.

9 студзеня г.г. у студэнцкім тэатры адбылася прэм'ера спектакля „Магія граху" паводле п'есы вядомага іспанскага драматурга Педра Кальдэрона дэ ла Барка (1600-1681). Кальдэрон быў змагаром за „хрысціянскія вартасці" свае эпохі, у якой прыйшлося яму жыць. У XVII стагоддзі Заходняя Еўропа рыхтавалася да вялікай інтэлектуальнай рэвалюцыі, якая неўзабаве разбурыла астакі феадалізму ў той частцы кантынента. Філасофія Дэкарта, Лейбніца, Спінозы, Гобса, Паскаля была спробай спалучэння праўды, якая ствараласа ў выніку дзейнасці чалавечага розуму, з праўдай, выцякаючай з догматаў хрысціянства. Канфлікту паміж „філасофіяй розуму" і голасам аўтарытэту Касцёла немагчыма было пазбегнуць. Бог філосафаў не меў зашмат супольнага з вобразам Бога, прапанаваным Касцёлам. Творы Дэкарта, Спінозы, Гобса, Паскаля знайшліся на спіску забароненых кніжак, а з іх ідэямі пачаў змагацца касцельны апарат. Кальдэрон быў найбольш выдатным змагаром супраць парушэння прынцыпаў, якія замацоўваліся звыш тысячы гадоў інтэлектам хрысціянскіх тэолагаў, „агнём і мячом" іквізіцыі.

Спектакль „Магія граху", пастаўлены студэнцкім тэатрам паказвае ў алегарычнай форме Чалавека, якога разрывае ўнутраны канфлікт паміж тым, да чаго заахвочвае яго чалавечая натура (названая тут „пачуццямі"), а хрысціянскім светапоглядам — названым тут „розумам", які ў студэнцкім выкананні сімвалізуе... ксёндз! (здзек над філасофіяй Рэнэ Дэкарта, які супрацьставіў каталіцкую навуку феномену розуму).

Не ведаю, чыя гэта заслуга — маладых акцёраў, ці рэжысёра — Адрыяны Піціна дэ Янік, але Розум — ксёндз, рулявы, па волі Неба, чалавечага лёсу, выглядае ў гэтым выяўленні не надта цікава, хаця ягоная перамога ў барацьбе з прыгожай Кіркэ, сімвалам зла і граху, была абсалютнай. Пасланца Неба сімвалізуе Анёл у дзявочай вопратцы з „першай камуніі", аднак Анёл гэты больш напамінае сваімі паводзінамі сучасную агрэсіўную і нудную катэхетку, чым боскую з'яву.

Жрыцу лагера зла і граху прадстаўляе прыгажуня ў вопратцы з „секс-шопа", якая магла б спадзявацца поспеху ў конкурсе на каралеву прыгажосці. Багіня Кіркэ — сімвал зла і распусты — прыгожая дама ў чырвонай сукенцы, астаецца адзінокай. Розум — ксёндз забраў ёй не толькі шэрага і слабога Чалавека, але таксама і яе сяброўкі — Ганарыстасць, Лісліваць, Зайздрасць, Сладастраснасць, Абжорлівасць. З таго, што дзеялася на сцэне студэнцкага тэатра астаецца зусім незразумелае, чаму Чалавек выбраў Розум — ксяндза, замест Кіркэ — грэх. Змест п'есы быццам бы накідаў такі выбар, але рэжысёр і мастак-дэкаратар (Галіна Залеўская) стварылі на сцэне ўсё, каб выбар Чалавека зрабіць менавіта незразумелым. Багіня граху была надта ж чароўная!

П'еса Кальдэрона кранае праблемы, якімі жыло і жыве каталіцкае грамадства. Пратэстанты ўжо даўно вырашылі праблемы патрэб, выцякаючых з чалавечай натуры і маральнасці, крыніцай якой з'яўляюцца рэлігія і культура. Праваслаўе не прысвячае гэтай справе асаблівай увагі, бо і не было такіх патрэбаў. Аднак высновы праваслаўных тэолагаў у дачыненні да катэгорый дабра і зла, як канфлікту паміж хрысціянскімі прынцыпамі і грэшнай натурай чалавека, былі падобныя, як і ў каталіцкіх калегаў. Ніколі аднак не ўзнікалі з гэтай прычыны сваркі, якія ангажавалі грамадства.

Творчасць Кальдэрона прадстаўляе свет чужы і малазразумелы праваслаўнаму чытачу, але інтэрпрэтацыя „Магіі граху" Адрыянай Піціна дэ Янік робіць змест спектакля больш універсальным і зразумелым кожнаму чалавеку. Энтузіязм маладых акцёраў стварае дадатковыя эстэтычныя вартасці, якія могуць зацікавіць, асабліва маладога, гледача.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**




*БАРЫС РУСКО*

**ЗІМОВАЯ ФАНТАЗІЯ**

Слупы дыму, як слупы Геракла,
падпіраюць нізкую чашу неба.
Мароз ачышчае празрыстасць
аж да болю вачэй.
Пушча і вёска пад векам цішы.
А пацяжэлыя зоркі грузна
рухаюцца Млечным Шляхам.

# НАШЫ КАРАНІ

## L XI. КРЭПАСЦЬ ПРАВАСЛАЎЯ

Першая палова XVI стагоддзя ў Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім) — гэта эпоха росквіту царкоўнага манументальнага жывапісу і іканапісу. Амаль у кожным манастыры па ўсіх беларускіх і ўкраінскіх землях працавалі іканапісныя майстэрні, паасобныя мастакі-ізографы, а то і цэлыя іх арцелі вандравалі па ўсёй краіне. Яны па заказу праваслаўных прыходаў, кцітараў-апекуноў храмаў ці святароў „падпісвалі", гэта значыць пакрывалі сцены і столь унутры царквы ці капліцы фрэскамі або сценапісам. Яшчэ больш было запатрабаванне на іконы да іканастасаў ці ківотаў не толькі ў новых ці рамантаваных храмах, але і ў палацовых капліцах князёў, магнатаў, заможнага баярства. Таксама ўсё часцей больш і меншых памераў іконкі асвячалі хаціны бяднейшага баярства ці мяшчан, а нават замажнейшых сялян. Таму іканапісцы не наракалі на недахоп заняткаў. А ў такіх умовах удасканальвалася выканаўчае майстэрства, фармаваліся новыя плыні і асаблівасці ў іканапісе, пашыралася знаёмства з мастацтвам іншых краінаў і эпохаў.

Гэта добра відаць на прыкладзе славутых фрэскаў Свята-Благавешчанскага храма ў Супраслі. Яны былі створаны недзе ў палове XVI ст., праўдападобна арцеллю мастакоў на чале з майстрам Нектарыем, родам з Сербіі. Даручыў ім гэтую справу архімандрыт Сергій Кімбар, які ўзначальваў Супрасльскі манастыр у 1532-1565 гадах і на часы якога прыпадае росквіт абіцелі.

У стылі супрасльскіх фрэскаў відаць повязі з сербскім манументальным жывапісам гэтак званай мараўскай школы, асабліва з фрэскамі пачатку XV ст., перш за ўсё з царквы Св. Тройцы ў Манасіі. Яны таксама маюць многа супольнага з насценным жывапісам XVI ст. з сэрбскіх храмаў: балканскія тыпы твараў, вопратка, абутак, зброя, арнаменты. У іх відаць уплывы стылю „рэнесанса Палеолагаў", які панаваў у XV-XVI ст. ст. у Візантыі і суседніх з ёю краінах і моцна паўплываў на ўзнікненне славутага Рэнесанса ў Італіі, а затым у іншых краінах.

„Аб сістэме роспісаў Супрасля дае ўяўленне люстра купала (скуф'я), дзе знаходзіўся вобраз Хрыста Пантакратара з закрытай кнігай, якая, згодна з прароцтвам Іаана Багаслова, будзе раскрыта ў дзень Страшнага Суда, — піша вядомая знаўца мінулага беларускага мастацтва В. В. Царашчатава. — Кампазіцыя вельмі архаічная. Пантакратар паказаны ў выглядзе грознага Бажаства, пагрудна, шчыльна ахутаны адзеннем, толькі бачны кісці рук — левая падтрымлівае кнігу, правая ледзь узнята ўгару з сагнутымі ўніз пальцамі. Твар падоўжаны, выразна з суровым позіркам вялікія вочы..."

У супрасльскіх фрэсках няцяжка заўважыць спробы аб'яднаць сімволіку візантыйскай іконы з адраджэнскім успрыняццём рэчаіснасці. Глыбіня патрабавальнага, няўмольнага позірку, поўныя чуллівыя губы, стройныя і высокія постаці, далікатныя доўгія пальцы і лёгкія рухі пры пышным багацці ўбранстваў і казачна-красачная, феерычная кампазіцыя колераў — усё гэта стварае незвычайна ўрачысты святочны настрой. Не малую ролю ва ўздзеянні супрасльскіх фрэскаў адыгрывала „каларыстычная гама, якая была надзвычай вытанчанай, з дзівосна мяккімі пераліваmі, — піша тая ж мастацтвазнаўца. — Шмат залацістай вохры, пяшчотна-ружовых і карычнева-вішнёвых колераў, шэра-сiняватых, блакітных і ізумрудных таноў. Колер не падаваўся ў ізаляваным (чыстым) выглядзе, плямай, а з рэфлексамі, прабеламі, адлівамі і пераходамі, з колеравым графічным вопісам складак, форм".

Як успамінаюць бачыўшыя гэты незвычайныя творы, кожны з іх наказваў чалавеку глыбока задумацца над сваімі ўчынкамі, над сэнсам свайго жыцця. І гэтак прамаўляла кожная з некалькіх дзесяткаў фрэскаў, якімі былі аздоблены не толькі скляпенні і сцены, але таксама калоны, апсіда, прамежкі вокан — амаль уся ўнутраная паверхня храма. Размяшчэнне фрэскаў засяроджвала ўвагу на вобразах Бога Саваофа, Хрыста, Божай Маці, Апосталаў, на асноўных падзеях з жыцця Ісуса і Марыі на зямлі. Гэтыя фрэскі займалі цэнтральнае месца ў храме, і былі яны найкаштоўнейшымі творамі — на іх стварэнні канцэнтравалася майстэрства мастакоў. Мабыць, не з такім піетызмам ствараліся вобразы мучанікаў, пакутнікаў, хрысціянскіх рыцараў, што былі памешчаны на ніжніх частках сцен і калонаў. Трагедыя супрасльскіх фрэскаў яшчэ і ў тым, што ў выніку разбурэння Свята-Благавешчанскай царквы ўзрывам 23 ліпеня 1944 года адступаючымі гітлераўскімі захопнікамі беспаваротна загінулі якраз самыя каштоўныя творы з верхняй часткі храма. Захавалася толькі каля 30 кавалкаў фрэскаў з самага нізу, з іх удалося адрэстаўраваць поўнасцю ўсяго дзесяць фрэскаў, у асноўным з вобразамі святых мучанікаў.

Паслядоўнае падпарадкаванне размяшчэння фрэскаў канонам Праваслаўя не было невыпадковым. Яны паўставалі ў часе, калі на нашых землях узмацняўся націск на Праваслаўе з боку іншых веравызнанняў. Супрасльская Лаўра стала тады праўдзівай крэпасцю, бастыёнам Праваслаўя, яго вельмі актыўным цэнтрам, які праменіў сваімі ўплывамі на вялікі абшар заходніх ускраін Беларускай дзяржавы. І фрэскавы роспіс у супрасльскім Свята-Благавешчанскім храме спаўняў важнае заданне ва ўмацаванні праваслаўных у іхніх намаганнях захаваць веру бацькоў.

Адрэстаўраваныя фрэскі, — як адночы заўважыў Яго Высокапраасвяшчэнства архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, — у адбудаваным Свята-Благавешчанскім храме будуць памешчаны ў тых самых месцах, дзе яны знаходзіліся перад зніштажэннем царквы.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ПРАПАДОБНЫ АНТОН ВЯЛІКІ



Святы Антон нарадзіўся ў палове III ст. у Егіпце. З юнацтва вылучаўся ён спакойным характарам, а ў яго паводзінах відаць было імкненне здзяйсняць добрыя ўчынкі. Несумненны ўплыў на станаўленне яго індывідуальнасці мела выхаванне ў сапраўды хрысціянскай сям'і. Калі споўнілася яму 20 гадоў, памерлі яго бацькі. Антон, раздаўшы тады сваю маёмасць, пасяліўся ў пячоры, непадалёк месца свайго жыхарства. Там, пад апекай старца-пустэльніка, правёў першыя гады і ўзрастаў духова. Праз нейкі час, імкнучыся поўнасцю ізалявацца ад вонкавага свету, ён пераплыў на левы бераг Ніла і пасяліўся ў адной з пячор. Там ён прабыў каля 20 гадоў, праводзячы час на малітвах і посце. Сціплыя харчы спажываў ён толькі па захадзе сонца і то не кожны дзень. Слава аб яго подзвігах прывяла да яго людзей, якія шукалі духовых указанняў і павучэнняў. Многія з іх асталіся паблізу яго пячоры з намерам прысвяціць сваё жыццё Богу. Неўзабаве ўзнікла там многа абіцелей і скітаў. Прападобны Антон для пражываючых у іх манахаў быў настаўнікам і праведнікам іх духовага жыцця, правадыром на шляху да Неба. За адказамі на хвалюючыя пытанні, за духовымі парадамі прыходзілі да Прападобнага Антона многія людзі, нават язычнікі-філосафы. Усе яны былі здзіўлены мудрасцю, якой надзяліў яго Бог. За 85 гадоў жыцця ў пустыні Святы Антон пакінуў яе толькі двойчы, падаючыся ў Александрыю. Першы раз — у часы праследаванняў пры Максіміяне, калі падтрымоўваў хрысціян, умацоўваў іх у веры, заступаўся за іх перад суддзямі. І хаця сам прагнуў тады загінуць пакутніцкай смерцю, аднак Гасподзь ахоўваў яго і Антон вярнуўся ў пустыню. Другі раз з'явіўся ён у Александрыі, калі ўзнікла ерась Арыя і яе прыхільнікі сталі распаўсюджваць вестку, што Прападобны Антон падтрымоўвае іх навуку. Прыбыўшы ў горад, старац публічна асудзіў ерась, а яго словы ўмацавалі малаверных у сапраўднай веры. Выконваючы сваю місію ён зноў вярнуўся ў сваю ўлюбёную пустыню. Ведаючы аб надыходзе сваёй смерці, развітаўся ён з брацціяй і з двума манахамі падаўся ў адасобленае месца, дзе аддаў сваю душу Богу. Тады Святому Антону было 105 гадоў. Памёр ён у 356 годзе.

Царква ўслаўляе яго як „чыстага душою і сэрцам зямнога анёла", „правадыра поснікаў", „манаствуючых фундамент і апору", „Царквы ўмацаванне", „заблудных вялікага настаўніка". Пакінуў ён па сабе правілы для манахаў, павучэнні, збор сваіх думак, адказы на розныя пытанні і лісты.

Памяць Прападобнага Антона Вялікага ўшаноўваем 30 студзеня (17.01 па старому стылю).

**С. Н.**

# АНАТОЛЯ МАЎЧУНА ЛІСТ ДА СЯБРЫ

**Дарагі Дзядзька Тарчэўскі!**

Вось ужо і 1994 год. А я не паспеў яшчэ з дзевяноста трэцім разлічыцца. Быццам яго і не было. Праўда, шмат што ў мінулым здарылася. Шкада, што жахлівага было намнога больш. Перад святам прабаваў я к Вам дазваніцца. Не ўдалося. А мы ўжо даўно не сустракаліся. Як жа Ваша, абаіх, здароўе? Ці можа быў Ты улетку ў Менску? Я якраз учора дастаў ліст ад Данчыкавай маці. Спадарыня Юля прыслала нават здымак з вучнямі беларускамоўнай школы ў Менску. Арганізавалі ёй там прыём ў дзень нараджэння. Цяпер, — піша, — жыве ўспамінамі пра сустрэчы з роднымі і знаёмымі. Ну, а Ты ж меў запрашэнне на з'езд Беларусаў свету? І што? Я, амаль месяц, быў у Лондане. Спачатку цяжка было прывыкнуць. Горад вялікі, парадкі іншыя і мова мне зусім чужая. З часам усё ж асвоіўся — я ж быў у гасцях у спадара Лашука. Гараваў толькі, што калі дамоў вярнуся, то ад засухі агарод пустыняй стане. А было наадварот — усё зеллем зарасло ад дажджу. У Лондане амаль увесь ліпень быў цёплы і сухі.

З горадам не паспеў я дакладна пазнаёміцца. Пакуль не купіў дакладнай карты, не рызыкаваў блытацца далёка ад „хаты" па незнаёмых вуліцах, хаця прыгожых куткоў сустрэць там можна безліч. І ўсё там патанае ў зелені. Поўна агародчыкаў з кветкамі, прыгожых паркаў і дрэў, якія ўпрыгожваюць і ацяняюць вуліцы. Калі я хацеў зрабіць здымак спакойнай Penn Road, дык атрымалася, што ўздоўж былі відны толькі кроны, праз якія дзе-нідзе прасвечваліся пляміны архітэктуры. Вось пры гэтай жа вуліцы і знаходзіцца той Беларускі дом, які ў 1948 г. купілі беларусы, што раней служылі ў арміі Андэрса. Нядаўна аб гэтым перадавалі па радыё „Свабода". Пэўна Ты сам гэта чуў, калі руплiва слухаеш беларускія перадачы. Шмат цікавых навін можна з іх даведацца. На жаль, не ўсе яны радасныя. Нядаўна гаварылі пра Сяргея Карніловіча. Колькі ж ён працы і грошай уклаў у пабудову беларускага асяродка „Полацак" у ЗША! Сягоння няма яго ўжо ў жывых. Не памятаю, ці казаў я Табе аб ягоным прыездзе да мяне ў Познань. Прасядзелі мы з ім тады ўсю ноч. Успамінлі мінулае, глядзелі ягоныя здымкі з розных куткоў свету, слухалі песні Данчыка — вёз некаму ягоную кружэлку. Шмат нашых знаёмых ужо няма. У Лондане даведаўся я, што і Тамаш Кірылаў ужо памёр. Некалі і ён пісаў у „Ніву". Учора вечарам пазваніў мне і сп. Лашук, каб перадаць навагоднія пажаданні. Тэлефон прыняла жонка. Коратка мы размаўлялі, а ўсё ж на душы весялей стала. Гэта цікавы і шчыры чалавек. Не адно я чуў — апрача таго, што сам ведаю — ад Карніловіча пра яго. Каму і ў чым ён не дапамагаў, хаця сам, з увагі на ўзрост і здароўе, дапамогі патрабуе! Мая пабыўка ў яго выпала ў час З'езда беларусаў свету ў Менску. Лонданскія беларусы спяшаліся афармляць паперы, рыхтаваліся да сустрэчы з Бацькаўшчынай і знаёмымі. Панавала ажыўленне і напружанасць. Пазней мы пільна слухалі радыёперадачы аб ходзе сустрэчы. Спадар Лашук увесь час спяшаецца — не можа памірыцца, што часам яму сіл не хапае — а спяшаючыся, безупынна губляе свой кіёк. Штодзённа адказвае на пісьмы — мае каля трох тысяч адрасатаў — або звоніць, каб даведацца як адчуваюць сябе ягоныя сябры, якія, так як і ён, не маюць ужо здароўя, а часта і жывуць адзінока. У ліпені якраз яго знаёмы, Міхалюк, быў у шпіталі на аперацыі. Дзядзька Аляксандр перажываў гэта з вялікім неспакоем.

А колькі ў Лашука кніг... Завёз ён мяне і ў „Скарынінку". Там можна разгубіцца пры сустрэчы з беларускай гісторыяй, з багаццем матэрыялаў. Шмат разоў ужо пра гэты асяродак пісалася ў газетах (між іншым, пісаў і С. Яновіч). І проста верыць не хочацца, адкуль там, на эміграцыі, людзі бяруць сілу, якую аддаюць беларускай справе. Напрыклад, айцец Надсон. Ён святар, займаецца музеем і бібліятэкай, арганізуе сустрэчы — знайшоў і для мяне гадзіну часу — возіць лякарствы ў Менск... Ці маладое пакаленне здольнае да такіх ахвяраванняў?

А што чуваць у Содаля? Ці выдаў ён што-небудзь новага пра Багушэвіча? Даўно я ад яго пісьма не атрымаў. Пішы, калі час знойдзеш. А я, жадаю Вам добрага здароўя у Новым, 1994 годзе.

**Толя**

*Познань, 1.I.1994 г.*

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# УЦЁКІ

## 5

### Чацвёрты дзень уцёкаў

Мы прачнуліся, калі ўжо зусім развіднела.

— Устаем, — сказаў Валянцін, — чую, што баўэр ужо ходзіць па двары. Да Гайльсберга асталося нам чатыры кіламетры і сем да Памэйрэна. Пройдзем без спешкі.

Мы выйшлі з пуні і спаткалі баўэра. Ён быў у рабочым адзенні, відаць, карміў коней, бо на штанах былі рэшткі сечкі і аўса. Гэта быў высокі, лысаваты, ужо немалады мужчына. Калі ішоў, накульгваў.

— Habt ihr tief geschlafen (Вы моцна спалі), — сказаў ён.

— Ja, wir sind gestern müde gewesen (Так, мы ўчора былі змучаны), — адказаў я.

Ён паглядзеў на неба і сказаў па-нямецку:

— Надвор'е сёння прыгожае і мая жонка зрабіла вам снеданне.

Пагляздзеўшы на нас, баўэр нясмела прадаўжаў:

— Але ў мяне да вас просьба, — з хвіліну памаўчаўшы, запытаў: — Ці вы можаце мне нямнога дапамагчы? Мне трэба змалаціць авёс. Толькі адну гадзіну.

Мы пераглянуліся. Не выпадала адмовіць і мы згадзіліся.

Баўэр запрасіў нас у пакой, дзе на стале чакала нас снеданне: яешня, гарачая бульба, мяса, хлеб, масла і чорная збожжавая кава без цукру. Страўнікі ўжо перасталі балець і мы з апетытам налеліся.

Баўэр уключыў матор і пусціў малацілку. Валянцін падаваў снапы аўса баўэру, які яго клаў у машыну, а я з Пэтэрам адбіралі салому і насілі яе ў стог на гумне. Малацілі мы 50 мінут. Пасля пры помпе ля хаты памыліся. Жонка баўэра дала нам бутэрброды на дарогу. Паволі пайшлі мы ў кірунку горада. Праз гадзіну апынуліся ў ім і адразу накіраваліся да цырульніка. Тры месяцы нас ніхто не стрыг і трэба было абрэзаць валасы. Вошы былі толькі ў адзенні, а не ў валасах. Выйшаўшы ад цырульніка, наткнуліся мы на вуліцы на двух жандараў, якія загадалі нам паказаць дакументы. Жандар, прачытаўшы ў дакументах прозвішча майго баўэра, прыпомніў мяне:

— Ах, тваe бацькі прыслалі табе ў пачцы гарэлку.

Сапраўды мае бацькі заўсёды высылалі мне ў пачцы ў алюмініевай бутэльцы самагонку. І больш чым год усё было добра. І толькі ў сакавіку 1944 г. я атрымаў пачку без гарэлкі, хаця ў лісце пісалі, што яе выслалі. Альбо яе нехта ўкраў, альбо рэквізаваў нейкі кантроль. Праз два тыдні прыйшоў да мяне вось гэты жандар і на панадворку пры баўэры і яго жонцы выняў гэту бутэльку з самагонам і сказаў: „Забаронена прысылаць гарэлку. Напішы аб гэтым сваім бацькам". Потым адкруціў бутэльку і стаў выліваць самагон на траву. Аднак усяго не выліў, можа трэцюю частку, а рэшту аддаў мне. Трэба было пачаставаць баўэра. Прынёс ён маленькі кілішак, і калі выпіў, дык скрывіўся і сказаў: „Stark!" (Моцная).

Цяпер жандар прыпомніў гэты інцыдэнт, але аддаў дакументы і пусціў нас. Мы яшчэ пакруціліся па горадзе, нешта купілі ў магазінах, што прадаваліся без картак, і пайшлі ў Памэйрэн. Па дарозе затрымаліся ў лесе, з'елі бутэрброды, скінулі свае ніжнія кашулі, на якіх яшчэ былі вошы. Трэба было яшчэ раз пераапрануцца ў свежую бялізну. У Памэйрэн прыйшлі мы пад вечар. Па дарозе з горада першым быў хутар Валянціна, пасля Пэтэра, а далей — мой. Калі мой баўэр і яго жонка мяне ўбачылі, вельмі ўцешыліся. Вярнуўся бясплатны працаўнік. Найбольш уцешылася Лідка, якая са слязамі кінулася мне на шыю. Ніхто не спадзяваўся, што я тут з'яўлюся. Баўэру я сказаў, што нас адпусцілі ля самага фронту, і ён паверыў.

Лідка, дзяўчына з-пад Саколкі, якую прывезлі сюды ў верасні 1943 г. і якая працавала разам са мной у аднаго баўэра, была вельмі прыгожай і скромнай. Мы хутка пасябравалі. Яна заварыла цёплай вады, занесла яе на вышкі ў балею. Нарэшце я мог выкупацца. У абдымках Лідкі адчуў сябе, як нованароджаны.

### Эпілог

І вось ужо ў новых абставінах у баўэра я хутка набраў сілы, паправіўся. Восенню і зімой было менш працы. Лідка змагалася з прынесенымі мною вошамі амаль цэлы месяц. Яна мыла маю бялізну ў кіпетні, гладзіла мой пінжак і штаны гарачым прасам, але нічога не памагала. Мясцовыя немцы паверылі, што нас легальна адпусцілі і ніхто нас не дапытваў. Мы спакойна працавалі ў нашых баўэраў амаль тры месяцы, пакуль савецкая армія прарвала на поўдні фронт і 5 лютага 1945 г. завітала да нас.

У красавіку 1945 г. я працаваў санітарам пры ваенным шпіталі ў Велаў на ўсход ад Кёнігсберга. Калі савецкая армія ўзяла гэты горад, у Велаў быў зборны пункт для бежанцаў: палякаў, беларусаў, украінцаў, якія прыйшлі з Кёнігсберга. Яны свабодна хадзілі па горадзе і аднойчы нечакана спаткаў я аднаго паляка, з якім я спаў ля Растэнбурга ў гэтай праклятай пуні, з якой уцёк. Ён мяне спачатку не пазнаў, убачыўшы мяне ў савецкай вайсковай форме. Расказваў ён аб пакутах, якія тады перанеслі. Пасля нашых уцёкаў іх гналі галодных на поўнач аж да Кёнігсберга. Не раз пападалі пад артылерыйскі абстрэл і многа іх загінула. І вось толькі ў красавіку 1945 г. іх вызвалілі. Не ведаю, ці яго адпусцілі дамоў пасля нашага спаткання, ці пагналі ў Савецкі Саюз, як тых, з якімі я папаўся ў зборны пункт пасля вызвалення ад немцаў. З маіх сяброў з Памэйрэна толькі мяне забралі са зборнага пункта ў Зээбургу ў савецкую армію; усіх іншых пагналі дзесьці і павезлі „на праверку" аж пад Куйбышаў. Туды папаў і Валянцін.

# ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ КАРНІЛОВІЧА

## Частка другая

Сяргей Карніловіч належаў да тых рэдкіх людзей, якія больш і часцей думалі аб чужых інтарэсах чым уласных. Пераканаўся я аб гэтым, калі ляцеў з Ім з Нью-Йорка ў Клўіленд, калі вазіў мяне Сяргей з Клўіленда ў Чыкага, Дэтройт, на вадаспад Ніягару, урэшце падчас некалькіх тыдняў супольнага жыцця ў Клўілендзе. У гэты кароткі час супольнага прабывання быў я сведкам не толькі ідылічных сцэнаў, але і канфліктных сітуацый. Ва ўсіх сітуацыях і станах Сяргей заставаўся нязменна тым самым чалавекам: станоўчым, ураўнаважаным, добразычлівым. Я не чуў, каб Сяргей гаварыў дрэнна не толькі аб тых людзях, якія адносіліся да яго прыхільна, але і да тых, хто дэманстраваў сваю абыякавасць, а нават варожасць да гэтага шляхетнага чалавека. Зразумела, што аграмадная большасць амерыканскіх беларусаў бачыла Сяргееву высакароднасць і адплачвала Яму ўдзячнасцю і сардэчнасцю. Аднак, як у кожнай чалавечай грамадзе, знаходзіліся такія, якія не заўважалі Сяргеевай дабраты і альтруізму і адносіліся да Яго абыякава, непрыхільна, а нават варожа. Сяргей заставаўся нязменна на сваёй пастаяннай пазіцыі поўнага зразумення для чалавечых слабасцяў, прыдзірлівасці і глупстваў.

Меў Сяргей адно пастаяннае акрэсленне: — „Я стары чалавек". Нярэдка нават злоўжываў гэтымі словамі, як бы падкрэсліваючы, што стары чалавек мае абавязак адносіцца да свету, да яго недарэчнасцяў і абсурдаў з філасофскай стаіцкасцю, лібералізмам і прабачэннем. І так, несумненна, да ўсяго Ён адносіўся.

Бязмежную дабрату Сяргея Карніловіча, бясспрэчна, выкарыстоўвалі многія хітрыя і эгаістычныя людзі. Такія выводзіліся, між іншым, з Беласточчыны. Сяргей чытаў мне лісты, у якіх нашы землякі з розных грамадскіх слаёў пісалі аб крайнім сваім убостве, прасілі дапамогі. Некаторыя з іх прадстаўлялі сябе ахвярамі рэпрэсіяў. З пэўнай разгубленасцю і збянтэжанасцю гаварыў Сяргей і аб дзесятках беларусаў з Беласточчыны, які малілі Яго, каб прыслаў ім запрашэнне на два-тры тыдні ў Амерыку. Прыехаўшы ў ЗША гэтыя беларусы рабілі ўсё, каб застацца на тры-чатыры і пяць месяцаў. Зразумела, што такія паводзіны нашых землякоў прычыняліся да шматлікіх клопатаў і праблем у жыцці Сяргея. Аднак знаходзіў Ён у сабе вялікую сілу прабачэння і для такіх эгаістычных людзей. У часе апошняй нашай сустрэчы з Сяргеем у Мінску ў пачатку ліпеня 1993 года, я спытаў Яго: „Ну, а што было б, калі б такія тваe госці засталіся ў Цябе на два ці тры гады?" Сяргей задумаўся, усміхнуўся і адказаў: „Ну, што ж, было б цяжка, але неяк вытрымаў бы, я ж стары чалавек". І ў гэтым адказе адлюстроўваўся ўвесь духоўны шчодры свет душы Сяргея.

Сяргей Карніловіч балюча перажываў стан духоўнай нацыянальнай дэградацыі беларускага народа. Татальная русіфікацыя Беларусі, упадак беларускага нацыянальнага гонару, сілавая ліквідацыя беларускай мовы ў агульнадзяржаўных маштабах, а таксама ў памерах Докшыцаў і ў рамках Яго радні былі прычынай глыбокай прыгнечанасці і засмучэння гэтага гарачага беларускага патрыёта.

Сяргей, аднак, ніколі не страціў веры ў канчатковае адраджэнне Беларусі і як жа многа Ён зрабіў для таго, каб гэтае адраджэнне сталася фактам!

Сяргей Карніловіч не быў вешчуном ані выдатным публіцыстам. Аднак, здаецца мне, што для тых беларускіх прамоўцаў і аўтараў, якія з Ім сустрэліся, быў Сяргей творчым імпульсам многіх добрых творчых задум.

Сяргей быў амаль маім аднагодкам, нарадзіўся ў 1929 годзе. Пражыў 64 гады. Цела Яго пахавана ў амерыканскай зямлі, але Яго душа будзе заўсёды лунаць над Беларуссю і над Беласточчынай, інспіруючы і ўспамагаючы тых, хто не здрадзіў Айчыне і хто прагне жыць у ёй без нянавісці.

Хай будзе лёгкай, Табе, Сяргею, амерыканская зямля і хай Тваю магілу заўсёды наведваюць беларусы.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Я — САМЫ ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК...

**Размова з НАТАЛЛЯЙ АРСЕННЕВАЙ**

*Працяг са стар. 5*

цукерак, ну там было ўжо крыху лягчэй. А найдаўжэй працавала я на трыкатажнай фабрыцы, дзе мы вязалі світры.

*— Працавалі Вы таксама на Радыё „Свабода".*

— Апошнія некалькі год перад выхадам на пенсію. Ну, там было ўжо зусім лёгка. Пісала я там пераважна скрыпты пра розныя беларускія культурныя падзеі ў Амерыцы. Але гэта было, так сказаць, ужо „пад старасць". Наогул жа я ніколі не цуралася ніякай працы. Вы мяне маглі б паставіць дзе заўгодна, хоць капаць бульбу, хоць што-небудзь іншае рабіць — я ўсё рабіла з задавальненнем. Як казалі саветы, „вкалывала честно".

Вось, як бачыце, я — хоць і паэт — самы звычайны чалавек, частка грамадства, частка майго народа. А ў тым, што хтосьці становіцца творцам, ці то паэтам, ці мастаком, ці кампазітарам — вялікая загадка. Часта бывала, што пасля цэлага дня на фабрыцы, вярталася я дахаты падземкай, а ў галаве паўставалі нейкія вобразы, паяўляліся абрыўкі сказаў, нараджаліся вершы. Таксама ўначы. Я нават клала каля ложка кавалак паперы і алавік, каб, прачнуўшыся, пакуль засну зноў, злавіць гэтыя вобразы, каб не ўпусціць іх. Паэтычная творчасць, гэта — паўтараю — нейкая загадка, якой я растлумачыць не бяруся.

*— Сардэчна дзякую Вам за размову. Жадаю ўсяго найлепшага, перш за ўсё моцнага здароўя і новых творчых дасягненняў. Што б Вы, на заканчэнне, параілі маладым беларусам?*

— Я падрабязна не ведаю ўмоваў, у якіх двоздзіцца ім сёння тварыць. Я жадаю ім аднаго — шчырага жадання будаваць шчаслівую будучыню свае Бацькаўшчыны, як пішу я ў вершы „Сталёвы зьвяз":

*Ня дось крычэць аб Беларусі*
*і захлынацца ўласнай сьлінай,*
*ня досыць верш слабы згарусьціць*
*і прысьвяціць яго краіне.*
*Ня той,*
*хто трубіць аб пачуцьцях*
*па цемнакуцьцях —*
*патрыёта.*
*Бяз чыну —*
*слова не скалмуціць*
*нат твані лужыны балотнай.*
*А што казаць,*
*яшчэ вось сяньня,*
*аб акіяне людзкіх душаў?*
*Іх,*
*хоць кругіч сабе да раньня,*
*сьпяваньнем жабім не ўзварушыш.*
*Ня словаў трэба,*
*а хаценьняў,*
*і сіл асілкавых, і згоды,*
*і гарту ўпартага, каб сьцені*
*на шлях ня палі перашкодай.*
*Нат больш...*
*Каб справы не скалечыць,*
*каб не праспаць узноў сьвітаньня,*
*высілкаў трэ нечалавечых*
*і процьмы цёплага каханьня.*
*Тады...*
*Тады мы зьвяз сталёвы*
*з блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам,*
*і раз нарэшце моцным словам*
*ня нам,*
*а мы што сьвету скажам!*[3]

**З Наталляй Арсенневай гаварыў у Нью-Йорку**

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

---

1) Фрагмент верша „Маладым паэтам", напісанага ў 1937 годзе ў Равічу. Верш гэты замыкае другі, падрыхтаваны перад вайною зборнік паэзіі Н. Арсенневай „Жоўтая восень". Зборнік гэты ніколі не выйшаў асобнай кніжкаю; поўнасцю быў надрукаваны толькі ў выданні „Між берагамі. Выбар паэзіі Наталлі Арсенневай, 1920-1970", Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, New York-Toronto, 1979 г. Гэты верш — на с. 77.

2) Пачатак верша „Сьмела, наперад", там жа с. 150

3) там жа с. 108.




## ПАВАЖАНАЯ СПАДАРЫНЯ НАДЗЯ БАРТ-ЮРЭВІЧ!

У 47 н-ры „Нівы" ў адгалосцы „Недарэчныя закіды" Вы пішаце: *Чаму закідаеце нямецкаму народу, якога маладая генерацыя нічога супольнага не мае з гітлераўскім часам, такую страшную хлусню? Чаму такая нянавісць да немцаў?* Вы кепска мяне зразумелі. Пад словам „немцы" я не разумеў цэлага нямецкага народа, а толькі нямецкіх палітыкаў, якія мелі ўплыў на адносіны і ўчынкі Нямеччыны да былой Югаславіі. Як у кожным народзе, таксама і ў нямецкім, ёсць добрыя і злыя людзі. Праўда, гітлерызм заразіў агромную масу немцаў нянавісцю да іншых народаў, асабліва да яўрэяў і славян. Яны пад уплывам нямецкай прапаганды сталі лічыць сябе вышэйшай расай людзей і адносіліся да іншых народаў горш, чым да жывёл. Пасля паражэння гітлераўскай арміі на франтах, большасць з іх вылечылася з гэтай страшнай хваробы. Але не ўсе. Многія жывуць з тымі поглядамі да сённяшняга дня.

Я бачыў як у 1943 г. здзекваліся немцы (напэўна, не ўсе, але вельмі вялікая частка) над рабочымі палякамі і беларусамі, якіх прымусова вывезлі на работы ў Нямеччыну. Адзін раз вялі іх з цягніка па вуліцы, у шарэнгах, а з двух бакоў стаялі малыя і старыя немцы (тыя, якіх не прызвалі ў армію) і плявалі, крычалі і смяяліся з іх, а нават часам падбягалі да іх малыя дзеці і давалі выспяткі. Гэта было страшэннае і прыкрае відовішча. Я не буду гаварыць, што яны рабілі на тэрыторыі акупаванай немцамі, бо яшчэ людзі памятаюць. А пакаленне, якое здзекавалася над прымусовымі рабочымі яшчэ не загінула, а жывое і можа нават вучыць сваіх дзяцей нецалерантнасці. Я бачыў, як па-зверску адносіліся ў 1944 г. нямецкія канваіры да былых сваіх саюзнікаў — італьянскіх салдат, якіх, пасля перавароту Бадольё, загналі ў лагеры для ваеннапалонных. Але я не маю нянавісці да нямецкага народа, хаця ў часы акупацыі я перажыў у былым Рэйху многа цяжкіх хвілін і атрымаў многа крыўды. Я маю нямала знаёмых сярод немцаў і немак, з якімі ўвесь час падтрымоўваю нават дружбу. З адной жанчынай з Бад-Райхенгаля ў Баварыі я пазнаёміўся на пляжы ў Дуброўніку ў Югаславіі і да сённяшняга дня мы перапісваемся. Я быў нават госцем у яе ў 1979 г. Там аднойчы запрасіў мяне да сябе на вячэру муж яе дачкі, па прафесіі адвакат, якога бацькі былі выгнаны з Чэхаславакіі. Ён кіпеў большай нянавісцю да чэхаў, чым яго бацькі, і з пагардай гаварыў аб харватах, якія вывозілі смецце з яго дома. Ён пры мне выцягнуў вялікую карту Еўропы і хваліўся, якой вялікай была Нямеччына пры Гітлеры. Мне, ягонаму госцю, не выпадала спорыць з ім, але ўражанне ў мяне асталося непрыемнае. А ён ужо належаў да пасляваеннага пакалення, якое, як Вы пішаце, не мае нічога супольнага з гітлерызмам. Я быў у знаёмых немцаў і ў Кёльне, і ў Хагене, і ў Аахене, і ў іншых мясцовасцях і спатыкаўся з рознымі немцамі: і з вельмі прыемнымі, і з нацыстамі. Некаторыя немцы і немкі гасцявалі ў мяне дома. Нянавісці да немцаў я не адчуваю, але далей прытрымліваюся погляду, што нямецкія палітыкі мелі вялікі ўплыў на тое, што цяпер сталася ў Югаславіі. І яны за гэта нясуць галоўную адказнасць. Гэта нямецкія палітыкі дапамагалі фінансава і матэрыяльна фашысцкай сепаратысцкай харвацкай арганізацыі важака Павеліча — усташоўцам. Гэтая арганізацыя паўстала ў 1929 г. у Італіі і Венгрыі, і ў 1930 г. налічвала каля 600 чалавек. Калі ў 1933 г. дайшоў да ўлады Гітлер, нямецкая разведка зацікавілася гэтай арганізацыяй і дапамагла ўсташоўскім тэрарыстам забіць у Францыі югаслаўскага караля Аляксандра І Карагеоргіевіча і міністра замежных спраў Францыі Жана Луі Барту. Гэта немцы вучылі ў сваіх школах усташоўцаў (і ўкраінскіх нацыяналістаў) тэрарызму. Калі немцы занялі Югаславію, то ў 1942 г. стварылі „Незалежную Харвацкую Дзяржаву" на чале якой паставілі А. Павеліча. Усташоўцы тады пры дапамозе нямецкіх салдат забілі сотні тысяч сербаў, застаўлялі сербскіх жанчын мяняць веравызнанне на каталіцкае. Памагалі ім у гэтым каталіцкія ксяндзы. Гэта ўсташоўцы арганізавалі канцэнтрацыйны лагер у Ясновацу, дзе загінула 700 тысяч чалавек — пераважна сербаў. Пасля вайны немцы, як і іншыя заходнія дзяржавы прытулілі ўсташоўцаў у сваіх краінах, адкуль яны арганізавалі тэрар і ў Югаславіі (аб якім я ўспамінаў), і па-за яе граніцамі. У 1971 г. яны забілі пасла Югаславіі ў Стакгольме. Лівію караюць за арабскіх тэрарыстаў, а за ўсташоўскіх нікога не пакаралі. Пасля смерці Ціта ўсташоўцы атрымалі яшчэ большую фінансавую дапамогу з боку нямецкіх нацыяналістаў. Гэта пры дапамозе ФРГ і Аўстрыі ўсташоўцы куплялі зброю і перавозілі яе ў Харватыю. Адкуль у іх паявілася столькі зброі? То іх разведкі праводзілі агітацыю сярод славенцаў, харватаў, а пасля басанцаў за адлучэнне ад Югаславіі і абяцалі ім „залатыя горы", калі адарвуцца. Напэўна нямала віны было з боку сербскага нацыяналіста Мілашэвіча; паспрыяла гэтаму і пагаршэнне эканамічнага становішча Югаславіі. Таму так многа харватаў пад націскам усташоўцаў галасавалі за незалежнасць. Пасля рэферэндуму Германія і Аўстрыя першымі прызналі незалежнасць Славеніі і Харватыі, а пасля і Босніі і націскалі на іншыя дзяржавы, каб зрабілі тое самае. Сам прэзідэнт Францыі Ф. Мітэран шкадаваў, што паслухаўшыся Х. Коля, хутка прызнаў незалежнасць Харватыі і Босніі. Курды і баскі ўжо дзесяткі гадоў вядуць барацьбу за зваю незалежнасць і ніхто за імі не ўступаецца, а прызнанне Харватыі і Босніі правялі ў алімпійскім тэмпе! Сербы не маглі згадзіцца на прапанаваныя граніцы паміж рэспублікамі, бо там жыве многа сербаў і басанцаў. Гэтага не прадбачылі і нямецкія палітыкі, а можа яны да гэтага імкнуліся. І дайшло да грамадзянскай вайны. І цяпер ніхто не ведае, як выйсці са склаўшайся сітуацыі. І гінуць нявінныя людзі з кожнага боку.

Паважаная спадарыня, не ўсе немцы аднолькавыя. Мы бачым цяпер, як падымаецца шавінізм і нацыяналізм сярод маладых немцаў, якія падпальваюць кватэры туркаў, нападаюць на чужынцаў і пасылаюць бомбы ў лістах сваім ідэйным праціўнікам — немцам. А хто ведае, што будзе далей?

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**




Астронку! Прыснілася мне, быццам я з'язджаю са стромкай гары самаходам. Гара неўявіма высокая, а мой самаход, падумай, з'язджае цалкам гладка. Гара была роўная.

Я з'ехала ўніз, у зялёную даліну. Маю рабіць вялікі прыём. Я вельмі непакоюся. Ведаю, што гэта мае адбыцца ў нейкай зале, але не ведаю, у якой. Ці хопіць нажоў і відэльцаў? Ага, там жа ўсё ёсць... Уніз дык я з'ехала, а як жа ўвайсці наверх? Бо наверсе ж мае адбыцца тая ўрачыстасць, хаця не там, адкуль я прыехала. Трэба ізноў ісці вышэй, толькі ў іншае, прыгожае месца.

Самахода ўжо няма. Іду, босая, па снезе (а было ж раней лета, бо і трава нават была зялёная). Ідзецца мне аднак лёгка. І холаду ніколькі не адчуваю. Але я ведаю, што цяжка будзе мне ўвайсці наверх на гару.

Раптам бачу калегу з працы. З ім ідзе нейкая жанчына, але не ведаю, хто яна. Калега мне гаворыць, што я не павінна непакоіцца, бо ён мяне завядзе наверх. І я ўпэўнена іду з імі, і ўжо ногі мае не босыя, і снегу не відаць. Вакол было зелена.

Што можа абазначаць гэты цікавы сон?

**Анэта**

Анэта! Сон цікавы, але сведчыць пра тое, што ты пераадольваеш нейкія перашкоды (высокія горы). Можа гэта быць нейкая хвароба, бо ты ішла ў пэўным моманце босая па снезе. Снег наогул абазначае ўраджай, прыбытак, выдатнае здароўе — але ж ён паявіўся толькі тады, калі ты ішла па ім босая. А быць босым ці ў рваным абутку — хвароба і беднасць.

Аднак жа, бадай, пры дапамозе нейкага сябра ты пераадолееш перашкоды, бо ўпэўнена пайшла на гару разам з тымі людзьмі, і не было ўжо босых ног на снезе, а вакол распасціралася зеляніна. Зялёнае — надзея на лепшае.

**АСТРОН**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КНЭДЛІ З СУШАНЫМІ СЛІВАМІ**

Прадукты:
*40 дэкаў бульбы,*
*20 дэкаў сушаных сліў,*
*мука (столькі, каб цеста не было цвёрдае),*
*4 яйкі,*
*5 дэкаў масла,*
*паўшклянкі смятанкі ці малака,*
*соль і перац,*
*тлушч для смажання.*

Слівы намачыць, выняць з іх костачкі. Бульбу зварыць, расцерці. Дадаць яйкі, расцертыя з маслам, малако, соль, цукар і муку. Цеста замясіць і раскатаць. Выразаць шклянкай кружкі, класці на іх слівы, качаць круглыя кнэдлі. Кнэдлі змазаць бялком і смажыць на патэльні ў глыбокім тлушчы. Перад падачай пасыпаць цукровай пудрай.

**ГАСПАДЫНЯ**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. гераічныя народныя паданні, 8. дзень памінкаў памёршых, 9. кнЫр, 10. першы цар Ізраіля, 11. фермент, 13. як падрасце, можа стаць ёлкай, 15. урач, які лечыць сродкамі гамеапатыі, 16. напр. кардыёлаг, 20. пашкоджанне арганізма, 22. падпольны ваяўнік, 23. прыбор для асвятлення, 27. падраздзяленне з некалькіх рот, 29. група, у якой усё супольнае, 30. назойлівы страх, 31. мера ёмістасці, 32. сталіца Руанды, 33. жоўты цытрус, 34. багіня перамогі ў старажытных грэкаў.

**Вертыкальна:** 1. бляск, свячэнне, 2. зімовае пацяпленне, 4. цвіце ў лесе ранняй вясной, 5. пограб, 6. асілак, 7. грашовая адзінка ў Фінляндыі, 12. цеста з цёртага міндалю і арэхаў, 14. шведская пісьменніца, лаўрэатка Ноблеўскай прэміі за 1909 год, 16. цвіце ў ліпені, 17. верхняя частка ствала і галін дрэў, 18. з пратонамі і электронамі, 19. у моры, 21. прымяняе аналіз, 24. аўтар „Загонаў" і „Самасея", 25. ненармальнасць, дзівацтва, 26. псіхічны стан з накіраванасцю думак у адным напрамку, 27. бык, 28. сталіца над Балтыкай.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 50 н-ра:**

**Упоперак:** Тарту, перашкода, міраж, атрад, акт, пражора, Акінава, ніз, канец, комін, Андалузія, кагал.

**Уніз:** грэшнік, тыраж, умова, парыжанка, аграномія, марак, дыван, ААН, таз ідальга, цадык, казёл.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Сварубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*РАСЦІСЛАЎ БЕНЗЯРУК*

## НА РЫНКУ

Гэта быў звычайны рынак.
Гандлявалі, хто чым мог:
Хто імкнуўся збыць машыну,
Хто — салёны агурок,
Мяса, рыбу, мандарыны,
І парэчкі, і маліны,
Кроп, пятрушку, памідоры
І сучасныя уборы.
Верціхвостка Ізабэла
Прадавала сваё цела,
А прафесар — галаву,
Што спраўлялася за двух...
У Панаса — бралі мяса,
У Фядоры — памідоры,
У Паліны — апельсіны,
А ў Ганулі — хрэн, цыбулю.
Ізабэла
Зранку ўмела
Прадала ўжо двойчы цела.
Як не сіліўся прафесар,
Галаву не змог прадаць...
Розум людзям гэтым часам
Не патрэбен быў, відаць.






*— Па мне — хоць патоп, хоць пажар.* Мал. Д. Каладзінскага

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Хачу прасіць рукі вашай дачкі.
— А гаварылі вы ўжо з маёй жонкай?
— Так, яна згодная, толькі я хачу вашу дачку!

* * *

— Ці знаеш, што твая жонка гаворыць усім направа і налева, што купіш ёй футра за 20 мільёнаў? Сапраўды купіш?
— Не куплю, але няхай сабе гаворыць.

* * *

— Гэты вальс мог бы я з вамі танцаваць да белай раніцы...
— І думаеце, што раніцай вы ўжо ўмелі б... танцаваць?

* * *

— Трэба купіць новую шафу, — гаворыць жонка мужу.
— Навошта? Старая выглядае яшчэ цалкам добра...
— Звонку так; ды дно ўжо зусім стаптанае...

* * *

Дырэктар прадпрыемства вярнуўся з экскурсіі ў Францыю.
— Ну і як там тыя парыжскія кабеткі?
— пытае сябра.
— Вельмі інтэлігентныя. Аднойчы ў кавярні прысела да майго століка такая адна. Я ні ў зуб не разумеў па-французску і не маглі дагаварыцца. Нарысаваў я на паперы ноту і яна адразу скеміла, што хачу танцаваць. Калі вярнуліся да століка, яна нарысавала ложак. Да сёння не ведаю, як яна дадумалася, што я — дырэктар мэблевай фабрыкі.

* * *

— Ох, які цудоўны букет кветак! Адкуль узяў ты яго, мой любы?
— З агарода майго суседа.
— Ці ён пра гэта ведае?
— Так! Амаль кіламетр гнаўся за мною з дубінкаю.

*Сабраў*
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## АД РЭДАКЦЫІ:

З задавальненнем паведамляем, што адзін з распрацоўшчыкаў гэтых навуковых доследаў, Марцін Юр, нарэшце акрыяў і разам з Францішкам Хлусам надалей будзе палохаць чытачоў „Нівы" сваімі жахлівымі, але тым не менш праўдзівымі нататкамі. Рэдакцыя спадзяецца, што навуковец, цудам ацалелы пасля сустрэчы са зданню Беларускага тэлебачання, у далейшым стане прытрымлівацца тэхнікі бяспекі, чаго зычым і ўсім чытачам.

**„НІВА"**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг;
пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ТЭХНАТРОННЫЯ ЗДАНІ

З агульнага шэрагу пачвараў нашае Бацькаўшчыны гэтыя здані найбольш інтэрнацыянальныя, бо паўсталі ў час масавых русіфікацыі і паланізацыі сродкаў сувязі і масавай інфармацыі. Іх нельга ўбачыць, да іх нельга дакрануцца: іхняй формай існавання з'яўляюцца электрычныя імпульсы, магнітныя палі, радыёхвалі. У пераважнае большасці тэхнатронныя пачвары — прадукт навукова-тэхнічнае рэвалюцыі. Такія істоты вядуцца ў вялікіх гарадах, бо толькі гэта дае ім магчымасць без перашкодаў вандраваць па камунікацыйных сетках.

### Тэлефонаўка

У Беларусі гэтая здань з'явілася адной з першых. Яшчэ ў даваенны час — разам з увядзеннем аўтаматычных ліній сувязі. Да верасня 1939 года тэлефонавак было дзве: заходняя (крэсова) і ўсходняя (БССРаўская); першая размаўляла на польска-беларускай трасянцы, другая — на беларуска-расейскай. Пасля ўз'яднання Беларусі яны зліліся ў адну.

Гэтая здань найбольш вядомая і папулярная: практычна няма ніводнага чалавека, які б не сутыкаўся з яе падступнымі праявамі. Але ў нашыя рацыянальныя часы людзі не схільныя верыць у звышнатуральнае і надзвычайнае, таму і тлумачаць дзіўныя тэлефонныя званкі дурнымі жартамі непаўналетніх правапарушальнікаў.

Найбольшую шкоду прынесла дзейнасць тэлефонаўкі ў сярэдзіне 70-х гадоў: у прыватнай кватэры гучаў тэлефонны званок: „Вас турбуюць з тэлефоннай станцыі, — ласкавым голасам маніла Тэлефонаўка. — Якая даўжыня тэлефоннага дроту ў вашай кватэры? Памерайце, калі ласка". Небарака-абанент легкадумна браў метр-складанчык і старанна вымяраў даўжыню тэлефоннага дроту. Нарэшце, браў слухаўку і адказваў: „Метр дзевяноста". „А трэба роўна метр", — сурова казала Тэлефонаўка. „Што ж рабіць?" — здзіўляўся абанент. „Лішняе адрэзаць", — без ценю здзеку ў голасе адказала тэхнатронная істота. І як ні дзіва, большасць абанентаў выконвала загад.

Канец неабмежаваным свавольствам Тэлефонаўкі ў адным з цэнтральных раёнаў Менска паклала наступная гісторыя. У Доме Урада, у кабінеце аднаго вельмі вядомага, але малапапулярнага палітычнага лідэра Вячаслава Ф. зазваніў тэлефонны апарат, нумар якога быў вядомы толькі паплечнікам па партыі і самым блізкім крэўным. Трубку падняў гаспадар. „Віншую вас з Днём маці! — азвалася слухаўка мужчынскім голасам. „Вядома, дзякуй, — гаспадар напружана ўспамінаў, дзе ён мог чуць гэты голас, — але ж я мужчына". „Так, Вячаслаў, вы мужчына, але тым не менш вы ёсць сапраўднай курвай", — з навушніка слухаўкі пачуўся гнюсны смех. „Хто гэта гаворыць?.." — зароў гаспадар. „Уся Беларусь гаворыць", — са слухаўкі пачуліся кароткія гудкі. Вячаслаў Ф., не марнуючы часу, пазваніў у тэхнічны аддзел асабістай аховы, каб там высветлілі, які менавіта абанент так яго абразіў. Праз некаторы час разгублены службовец адказаў, што да сакрэтнага тэлефона былі падключаны ўсе нумары Рэспублікі Беларусь. Пачалося расследаванне, у ходзе якога высветлілася наступнае: як толькі колькасць тэлефонных апаратаў злучаных у адну сетку дасягае крытычнае лічбы, яны, як нейроны ў мозгу пачынаюць самаарганізоўвацца. Таму, каб пазбегнуць далейшых непрыемнасцяў вядомы, але малапапулярны палітычны лідэр загадаў аддзяліць сакрэтныя тэлефоны ад агульнабеларускай сеткі, перавёўшы іх на радыёсувязь. Цяпер Інстытут прыватнай бяспекі і ўрадавай сувязі распрацоўвае новы тып тэлефонных апаратаў, якія здольныя вызначваць не толькі нумар, але і адрас ды прозвішча абанента.

А таму, шаноўныя абаненты, калі вы паверыце, што звышнатуральныя і надзвычайныя з'явы існуюць у тэлефонным свеце, а галоўнае — здолееце пераканаць у гэтым сваякоў, калегаў і начальства, то вашае жыццё стане куды лягчэйшым: вы зможаце без асаблівых наступстваў п'яныя званіць любым палітычным дзеячам, віншуючы іх з самымі дзіўнымі святамі, а жонка будзе толькі пасміхацца, калі ёй патэлефануе кінутая вамі каханка, і, наогул, тады вас чакае яшчэ шмат прыемных сюрпрызаў і мілых неспадзяванак.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**

## СЕНТЭНЦЫІ

Пачуццё меры
прама прапарцыяльна розуму.

* * *

Каваль куе свой лёс,
пакуль хопіць жалеза.

* * *

Суперструна — балерына,
якая стварае боскую задуму.

* * *

Хто шукае сябе ў гушчарні ілюзій,
той шукае іголку ў стозе сена.

* * *

Знакі на небе
можна прачытаць на розны спосаб,
знакі на зямлі — толькі на адзін.

**БАРЫС РУСКО**




Сэрцайка!

Было лета, калі я пазнаёмілася з маім хлопцам. Я не спадзявалася, што застанецца ён са мной назаўсёды, але мне хацелася, каб прынамсі застаўся ён у маім сэрцы, як нейкі цёплы, летні ўспамін. Выйшла інакш.

Мы пазнаёміліся на стадыёне ў часе футбольнага матча. Якраз сядзелі побач, ды я, на жаль, перажывала за іншую, чым ён, дружыну. Ён першы зачапіў мяне. Спытаўся, чаму гэта я не з ім, а наадварот, хачу, каб яго дружына прайграла. Я толькі ўсміхнулася — і ад гэтага ўсё пачалося.

Пасля матча хлопец запрасіў мяне на каву. Потым пайшлі мы яшчэ на дыскатэку. Гэты дзень закончыўся для мяне а першай ночы.

І так мы пачалі сустракацца. Бачыліся штодзень. Цалаваліся і прытуляліся, часамі аж занадта. Я бачыла, што хлопец аж гарыць. Але што ж, калі не было куды схавацца. У нас — немагчыма, заўсёды ў хаце бацька-пенсіянер. У яго — нарабілі б крыку, бо васемнаццацігодак пра вучобу павінен дбаць, а не пра каханне. І так мы бадзяліся па вуліцах, цалуючыся часта на вачах чужых людзей, лазілі па парку.

Калісьці ў парку ён прыціснуў мяне да вялікага дрэва і так цалаваў, так цалаваў... А пасля пачаў неяк церціся, апранутым, аб мяне, і цёрся, і цёрся. Я глядзела на яго недаўменна, а ён толькі прасіў, каб я хвілінку яшчэ пачакала. А пасля ў яго быў, відаць, аргазм. Я на сабе яшчэ гэтага не прабавала, але ў кніжках тое-сёе чытала...

Аднойчы мы паехалі на раку. Было халаднавата, і я вырашыла не купацца. Сядзела ў вопратцы на беразе ракі, а хлопец мой палез у ваду. Выйшаў з вады, увесь дрыжачы ад холаду, лёг на плед каля мяне, моцна прытуліўся. Навокал не было ні душы, я абняла яго, каб хоць крыху сагрэўся, а ён умомант сцягнуў трусы і... ўтуліў у маю сукенку свой член. Некалькі рухаў з яго боку — і на сукенцы засталася толькі пляма. Я раззлавалася, а ён меў да мяне за гэта прэтэнзіі. Сказаў, што не кахаю яго, калі не зычу яму дабра. Я яму не зычыла дабра? Але ж мог бы прынамсі падняць тую сукенку і запляміць мне лепш трусікі, праўда? Не саромеўся ж паказацца перада мной як маці нарадзіла, а да трусікаў баяўся дакрануцца?!

Ад таго часу я так і рабіла: калі мы моцна цалаваліся, то праз нейкі час я падымала сукенку, а ён дакранаўся да маіх трусікаў і так кахаліся. Найчасцей рабілі гэта, калі ён мяне праводзіў дахаты, у нашым калідоры.

Даражэнькае Сэрцайка! Мушу табе прызнацца, што я пры гэтым усім нічога не адчувала. Сяброўкі, якія ўжо бывалі з хлопцамі, расказвалі, што ў такіх момантах чалавека агортвае цудоўнае пачуццё задаволенасці і палёгкі, а ў мяне не было нічога. Хлопец рабіў сваё, а я з ім цалавалася. Усё гэта пачынала мяне раздражняць, тым больш, што канчалася лета і нашыя сустрэчы наогул заставаліся пад вялікім сумненнем.

І тады я рашылася на адважны крок. Сустрэнемся, кажу, у парку, там жа ёсць далейшыя месцы, куды ніхто не ходзіць, і я табе аддамся. Згода, кажа ён.

Сустрэліся вечарам. Пайшлі далёка — у Звярынец. Была цішыня. Нікога паблізу не чуваць і не відаць. Хлопец падаслаў мне сваю куртку і я легла, а ён побач са мною. Пацалаваліся, прытуліліся адно да аднаго, але хлопец быў нейкі халодны. Я спадзявалася, што ён, як леў, кінецца на мяне і пазбавіць мяне дзявоцтва, а ён толькі неяк сарамліва сказаў: „Хадзем адсюль, бо ўбачыць, што зараз нехта прычэпіцца!" Я аслупянела. Баіцца быць у лесе?! Дык што ж з яго за мужчына і ці варта наогул з ім пачынаць?!

Я ўстала, дабегла да ад'язджаючага аўтобуса і ўскочыла ў яго, калі „мой" хлопец яшчэ дабягаў да прыпынка. І вось такім чынам замест цёплых успамінаў засталася халодныя. Больш з ім не сустракалася. Ці добра я зрабіла, Сэрцайка?

**Ялянта**

Даражэнькая Ялянта! Можа, з твайго боку выйшла не зусім добра. Ты падумала, што ён баіцца кагосьці. А ён, бадай, не баяўся ні людзей, ні ваўкоў, а найбольш цябе. Бо і ў яго гэта мог быць першы раз. Трэба было выказаць больш цярплівасці, а што трэба — прыйшло б у сваю пару. Усё ўжо было на добрай дарозе. Цяпер страчанага не вернеш.

**СЭРЦАЙКА**